PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2163) Год XLII Беласток 26 кастрычніка 1997 г. Цана 1 зл.



*Усходняя Беласточчына неўзабаве таксама апынецца ў Еўропе.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## У нумары



# Быў бы яшчэ адзін пасол

**З Сяргеем ПЛЕВАМ, паслом Сейма Рэчы Паспалітай ад Саюза левых дэмакратаў, гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**



Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

*— Напачатку хачу Вас распытаць пра мінулую кадэнцыю: у працах якіх камісій Вы, спадар пасол, прымалі ўдзел?*

— У мінулай кадэнцыі я на самым пачатку працаваў у Спецыяльнай камісіі па пытаннях кааператыўнага права. Сам жа я падаў заяўку ў Камісію па справах будаўніцтва і Камісію па справах нацыянальных і этнічных меншасцей; першая адпавядала маёй прафесійнай дзейнасці, другая — нацыянальнай прыналежнасці. У апошняй я змагаўся за сродкі на культуру нацыянальных меншасцей.

*— Вы, спадар пасол, кажаце „змагаліся”. То трэба было аж змагацца?*

— У многіх выпадках трэба было змагацца, асабліва пры планаванні бюджэту. І вось таму на працягу чатырох гадоў сродкі на культуру нацыянальных меншасцей павялічыліся амаль у чатыры разы. Не ведаю, ці ў папярэдніх кадэнцыях Камісія не мела сілы прарыву, ці не было каму рабіць захадаў, бо тады яе трактавалі абсалютна маргінальна. І толькі ў апошняй кадэнцыі Камісія пад кіраўніцтвам Яцка Кураня, якому выказваю пашану і схіляю галаву, і спадара Юрка Штэлігі пачала вельмі сур'ёзна займацца справамі меншасцей. Зрэшты, і з глыбінкі даходзілі сігналы, што няма грошай ні на ўтрыманне калектываў, ні на імпрэзы на мясцовасцях, ні на выданні; папросту, агульна не было грошай. У першым годзе зрух быў невялікі, але ў чарговых бюджэтах, дзякуючы нашаму змаганню, сітуацыя папраўлялася.

Так было ў сапраўднасці, бо ў групах ці галінах гаспадаркі, дзе была большая сіла прарыву і дзе былі сябры з нашай Камісіі, бывалі выпадкі, праўда — рэдкія, пераразмеркавання сродкаў.

*— Што гэта такое?*

— Калі Камісіі па пытаннях нацыянальных меншасцей не хапала сродкаў на нейкую канкрэтную мэту, а ў другіх камісіях, паводле падлікаў нашых калегаў, былі грошы „на ўсякі выпадак”, тады вяліся размовы між камісіямі, між іх старшынямі, і наступала перамяшчэнне тых сродкаў яшчэ на этапе падрыхтоўкі бюджэту. Выступіла гэтая з'ява асабліва пры апрацаванні бюджэту на 1997 год.

*— Ці, прыходзячы ў Камісію па справах нацыянальных меншасцей, ставілі Вы сабе нейкія мэты?*

— Я разлічваў на навелізацыю закона пра нацыянальныя меншасці, у тым ліку і закона пра адносіны Дзяржавы да касцёлаў нацыянальных меншасцей; у нашым выпадку — да Праваслаўнай царквы. Справа закона пра нацыянальныя меншасці нам зацягнулася: толькі на адным з апошніх пасяджэнняў Камісіі нам удалося прыняць праект таго закона, аднак прадставіць яго на пленарным пасяджэнні Сейма не ўспелі. Думаю, аднак, што будзе на гэта шанс на пачатку дзейнасці Сейма гэтага склікання.

Меншасці да гэтай пары не мелі ўсталяванай урадавай апекі. Міністэрства культуры выконвала гэта ад імя старшыні Рады Міністраў, аднак мы прапанавалі стварэнне інстытута прадстаўніка ўрада па справах нацыянальных

[працяг ☞ 8]

# Мы прачыталі

*Głód w komunistycznej Korei zabił w 1997 r. już ponad milion osób. Racje żywnościowe wynoszą sto gramów „czegokolwiek". Umierających z głodu poi się wywarem z liści. Ludzie masowo jedzą trawę. Za jedzenie ludzkiego mięsa rozstrzeliwuje się. Jedno z małżeństw zamordowało 50 dzieci i przechowywało ich solone mięso w domu. Wszędzie w stolicy Korei Phenianie widać błąkających się wycieńczonych ludzi. Sierocińce wypełnione dziećmi, których rodzice zmarli z głodu. W jednym pokoju przebywa najczęściej więcej niż 20 dzieci. Uderza tam głucha cisza. Dzieci nie mają nawet siły by płakać, niektóre nie są w stanie nawet podnieść głowy.*

*W wyniku komunistycznych eksperymentów w 1961 r. w Chinach zmarło z głodu około 30 mln. ludzi, na Ukrainie w 1933 r. — 10 mln.*

*Gazeta Wyborcza, nr 230*

* * *

*Jeśli liderzy zwycięskich partii wchodzących w skład AWS nie zaczną sprawować władzy i odpowiadać za państwo, to za trzy, cztery tygodnie będą chodzić po korytarzach sejmowych i zwalczać innych. Będą się nudzić i czuć, że mają za mało władzy, za mało wpływów. Zaczną zachowywać się tak jak Pawlak, którego partia też była w koalicji rządowej.*

*Kurier Poranny, nr 231*

* * *

*Kradzież, jako zjawisko społeczne, Białorusinów nie dziwi, stała się normą, sposobem na życie, zarobienie pieniędzy, ucieczką przed nędzą. Kradną prawie wszyscy, prawie wszystko i prawie wszędzie. Kradnie także prezydencka kancelaria. Białoruską gospodarkę toczy rak, potęgowany brakiem wolności inwestycyjnej i represyjną polityką prezydenta.*

*Trybuna, nr 231*

* * *

*Dr Krystyna Czuba, nowokreowany senator AWS twierdzi, że dla większości Polaków Bóg jest na pierwszym miejscu. Ze sceny politycznej zeszła Unia Pracy, która chciała przeprowadzić detronizację Boga z życia współczesnych Polaków. Większość Polaków chce normalnych relacji między biskupem a wojewodą, burmistrzem, katechetą a dyrektorem szkoły; aby nikt się nie dziwił, że do biskupa przychodzi poseł, wojewoda czy burmistrz. Biskup jest przecież gospodarzem na danym terenie.*

*Polityka, nr 40*

Ходзяць чуткі пра планы стварэння Koła Poselskiego Dewotek i Dewotów. D i D — у скарачэнні.

* * *

*Borys Jelcyn zabronił przyjmowania prezydenta Białorusi w Rosji.*

*Gazeta Wyborcza, nr 231*

Дагуляўся, Рыгоравіч!

* * *

*Wysoką pozycję Wappy na liście krajowej UP zmobilizowała Sojusz Lewicy Demokratycznej do umieszczenia na 40 miejscu Jana Syczewskiego, przewodniczącego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, starej peerelowskiej organizacji pryncypialnie zwalczanej przez młodych ze Związku Białoruskiego. W tak potężnym ugrupowaniu jak SLD było to równoznaczne z poselskim mandatem. Z listy okręgowej do Sejmu wszedł także inny członek BTSK — Siergiej Plewa. Oni dziś stanowią reprezentację białoruską w parlamencie.*

*Syczewski uważa, że w demokratycznym państwie narodowość jest kategorią emocjonalną, a nie polityczną. Konstytucja zapewnia mniejszościom prawa na odpowiednim poziomie, nie ma więc obiektywnej potrzeby walki o nie, a więc także jednoczenia się wokół haseł narodowych.*

*Kurier Poranny, nr 232*

Калі ўжо вярнуліся мы ў сямідзесятыя гады, тады: „Niech żyje...!"

* * *

*Na premiera rządu polskiego najbardziej nadaje się ciotka pana Mariana Krzaklewskiego. Ona pierwsza poznała się na walorach dzisiejszego przewodniczącego, jest mało znana, w związku z tym najlepiej nadaje się do zdalnego sterowania,* — каментуе кадравую палітыку АВС орган СЛД

*Trybuna, nr 231*

* * *

*Do agencji towarzyskich (burdeli) przychodzi 90 procent mężczyzn żonatych.*

*Kurier Poranny, nr 230*

Абазначае гэта толькі адно — не варта жаніцца. Больш тады „плюралізму" ў жыцці, чым звычайна.

* * *

*Каля 100 дэлегатаў з усёй Беларусі прыняло ўдзел ва ўстаноўчым сходзе Беларускага саюза казакаў. Сход адкрыў малітвай асабісты прадстаўнік мітрапаліта Філарэта, але мала які казак далучыўся да малітвы, хаця ўсе дэкларавалі надтрымку ідэалам Праваслаўя. Новая арганізацыя, на словах ініцыятараў, не збіраецца займацца палітыкай, а толькі патрыятычным выхаваннем моладзі. Невыпадкова ў зале былі патрыёты з лукашэнкаўскага патрыятычнага саюза моладзі.*

*Свабода, н-р 103*

Цікава, ці нагайкі будуць уласнай вытворчасці, ці імпартныя? Можа электрычныя, а можа традыцыйныя?

* * *

*Белкаапсаюз падняў цэны на бульбу.*

*Звязда, н-р 176*

Прыкрая справа!

# З мінулага тыдня

**У Страсбургу** завяршыўся II Саміт Савета Еўропы. У яго ходзе былі прыняты „Палітычная дэкларацыя" і план дзеянняў, які акрэслівае васемнаццаць прыярытэтных задач гэтай самай старой еўрапейскай арганізацыі. У плане прадугледжана ўзмоцніць барацьбу з расізмам і ксенафобіяй і ахову нацыянальных меншасцей. У саміце ўдзельнічалі прэзідэнты (у тым ліку Аляксандр Кваснеўскі) і прэм'ер-міністры сарака краін-удзельніц Савета Еўропы і чатырох дзяржаў, якія кандыдуюць у СЕ. У саміце не ўдзельнічалі толькі Беларусь, паколькі адабраны ёй быў статус „спецыяльнага госця" з прычыны недэмакратычнага кіравання краінай, і Федэратыўная Рэспубліка Югаславіі, якая застаецца па-за структурамі СЕ.

**Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі** запрасіў прэзідэнта Расеі **Барыса Ельцына** нанесці візіт у Польшчу. Запрашэнне было зроблена падчас прыватнай сустрэчы прэзідэнтаў у Старсбургу, дзе абодва ўдзельнічалі у II Саміце Савета Еўропы. Паводле расейскіх крыніц, прэзідэнт Ельцын абумовіў свой прыезд у Варшаву папярэднім неафіцыйным візітам прэзідэнта Польшчы ў Маскву.

**Страхавое таварыства „Polisa"** падпісала пагадненне з Белдзяржстахам аб супрацоўніцтве і супольным абслугоўванні кліентаў. Дзякуючы дамове аддзяленні Белдзяржстраха прадаюць страхавыя полісы польскай фірмы. Падпісанае пагадненне мае таксама спрасціць фармальнасці ў справе выплаты кампесацый грамадзянам Польшчы, якія падарожнічаюць па Беларусі.

**Пасол Расейскай Федэрацыі Леанід Драчэўскі** ўзнагародзіў групу ветэранаў з Беластоцкага ваяводства медалямі Георгія Жукава і „50 гадоў перамогі". Урачыстасць адбылася ў Гарнізонным клубе ў Беластоку. У гэтым годзе такія ўзнагароды атрымалі 1384 асобы з Беласточчыны, якія падчас II сусветнай вайны служылі ў Чырвонай Арміі або Народным Войску Польскім.

**Святаянскія паэтычныя сустрэчы** адбыліся ў Беластоку па ініцыятве мясцовага аддзялення Саюза польскіх літаратараў. Прымалі ў ім удзел паэты з Польшчы, Беларусі і Італіі — аўтары трынаццаці паэтычных зборнікаў, якія выйшлі на працягу года ў „святаянскай серыі", рэдагаванай **Янам Леанчуком** і **Янам Чыквіным**. З Беларусі на сустрэчу прыехалі **Галіна Тварановіч** і **Алесь Разанаў**, а таксама **Алесь Каско** — старшыня Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паэты ўдзельнічалі таксама ў „паэтычных уроках" у некалькіх школах Беластока.

**I Міжнародная канферэнцыя Прыбугская трансгранічная ініцыятыва** адбылася ў Беластоку. На працягу трох дзён 200 прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і еўрарэгіёнаў з Польшчы, Нямеччыны, Беларусі і Украіны, а таксама работнікі культуры і бізнесу абмяркоўвалі розныя аспекты кантактаў і супрацоўніцтва паміж еўрарэгіёнамі і гмінамі, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі. Удзельнікі канферэнцыі дайшлі да вываду, што такія сустрэчы трэба арганізаваць цыклічна, а канкрэтныя формы супрацоўніцтва паміж арганізацыямі з Польшчы, Нямеччыны ды Беларусі і Украіны будуць выпрацаваны па меры развіцця далейшых кантактаў.

**У Супраслі** адбылася канферэнцыя на тэму „Партнёрства: пазаўрадавыя арганізацыі і лакальная ўлада дзеля выканання задач гміны". На прыкладзе Гданьска беластоцкія дзеячы вучыліся прыцягваць для гміны значныя фінансавыя сродкі з дзяржаўных і замежных фондаў.



# Весткі з Беларусі

**Марш пратэсту**

У Менску адбыўся марш пратэсту супраць збяднення грамадства. Акцыю арганізавалі тры апазіцыйныя групоўкі — Беларускі народны фронт, Саюз жанчын і Свабодныя прафсаюзы. У пратэстацыйным маршы пад лозунгам „НЕ холаду і голаду!" удзельнічала дзве тысячы чалавек. Дэманстранты ішлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, неслі куклы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і вусеня, які сімвалізуе інфляцыю. Дэманстрацыя праводзілася ў рабочым квартале сталіцы — Фабрычным.

**Новы інстытут**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся са старшынёй камісіі па сродках масавай інфармацыі і правах чалавека Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Юрыем Кулакоўскім. Падчас гутаркі абмяркоўвалася пытанне стварэння на Беларусі інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека. Аляксандр Лукашэнка горача падтрымаў гэтую ідэю, паабяцаўшы бюджэтную падтрымку новай арганізацыі.

**Дэкрэт аб прыватызацыі**

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг заявіў, што дэкрэт аб прыватызацыі і раздзяржаўленні, які ў бліжэйшы час падпіша прэзідэнт, станоўча паўплывае на ўзаемаадносіны краіны з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі. 10 кастрычніка адбыліся размовы шэфа ўрада з місіяй Міжнароднага валютнага фонду.

**Школьны юбілей**

Паўвекавы юбілей адзначыла Лужаснянская школа-інтэрнат для сірот і дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, размешчаная ў наваколлі Віцебска. Пачынала яна працу як дзіцячы дом, а сёння функцыянуе як гімназія для асабліва адораных падлеткаў з цяжкім лёсам. Зараз у ёй атрымліваюць паглыбленыя, шматпрофільныя веды 250 выхаванцаў.

**Адкрыццё аўтара**

Сенсацыйнымі былі літаратурна-краязнаўчыя чытанні „Паэма «Тарас на Парнасе» і яе роля ў развіцці беларускай культуры", якія адбыліся ў краязнаўчым музеі ў Гарадку. На думку яго дырэктара Кацярыны Уверскай, ёсць падставы назваць аўтара да гэтага часу ананімнай паэмы „Тарас на Парнасе". Яна сцвярджае, што для гэтага ёсць дастаткова матэрыялаў. Удзельнікам чытанняў былі прадэманстраваны рукапіс, які, як сцвярджаюць даследчыкі, належыць пяру ўраджэнца вёскі Астраўляны Канстанціну Вераніцыну.

**Турэмныя рэформы**

У Менску адбылася міжнародная канферэнцыя па тэме „Фармаванне пенітэнцыярнай сістэмы", арганізаваная беларускім Хельсінскім камітэтам і Камітэтам па выкананні пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў. Яе ўдзельнікі і прадстаўнікі кіраўніцтваў турэмных сістэм Расеі, Германіі, Чэхіі, Румыніі і Польшчы абмяркавалі стан і перспектывы пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі ў святле вопыту іншых краін.

**Сусветнага ведамасць**

Дырэктару Рэспубліканскага НДІ неўралогіі, неўрахірургіі і неўратэрапіі, вядомаму беларускаму вучонаму Ігнацію Антонаву прысуджана званне „Чалавек года '97". Такім чынам адзначыла неўрахірурга міжнародная камісія Біяграфічнага інстытута ЗША.

**Замежныя заказы**

Менскі аўтазавод фарміруе партфель заказаў на вытворчасць аўтобусаў у 1998 годзе. Папярэдне планавалася выпусціць іх 250, аднак рост колькасці патэнцыяльных заказчыкаў магчыма ўнясе карэктывы ў гэтыя планы. Напрыклад, паступілі заказы ад Нарыльска і Яраслаўля на набыццё ў будучым годзе адпаведна 100 і 60 машын.

**Прывітанне цымбалістам**

Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам IV Сусветнага кангрэса цымбалістаў, які праходзіў у Магілёве. „У сучасным свеце культурныя кантакты не менш важныя, чым кантакты эканамічныя і палітычныя, — адзначыў прэзідэнт у пасланні. — Таму IV Сусветны кангрэс цымбалістаў з'яўляецца важным крокам у напрамку пашырэння культурнага абмену, замацавання сяброўскіх сувязей паміж краінымі і народамі".

# Залаты век

У вёсцы Вілюкі ў доме № 18 жыве найстарэйшая жыхарка Беласточчыны **Дамініка Вілюк**. Нарадзілася яна 14 кастрычніка 1884 года ў вёсцы Сіпурка ў Расеі. Цяпер бабулька жыве разам з дачкой Марыяй (1926 года нараджэння) у маленькім пакойчыку памерамі 2 м на 3,5 м. Пасярэдзіне пакоя стаіць на ножках металічная печка на тры канфоркі, а пад сцяною ложак, на якім спяць абедзве жанчыны.

Кабеты сустрэлі мяне сардэчна. Малодшая перапрашала, што няма дзе сесці (у памяшканні няма ні крэсла, ні стала). Дамініка Вілюк кепска чуе і ўсё ёй тлумачыць дачка. Бабулька расказвае хаатычна і з яе аповеду можна было даведацца, што тры гады была яна ў Расеі, што ейны муж служыў у арміі, што трэба было ўсё пакінуць і ўцякаць пехатою, што пасля спалілі іх бандыты... Старэча мела тут на думцы крывавую расправу атрада „Лупашкі" над мірнымі жыхарамі вёскі пасля II сусветнай вайны.

Найстарэйшы сын Дамінікі Вілюк, які жыў у Гайнаўцы, памёр. Сярэдні жыве ў Сувалках, а наймалодшы — за сцяной, займаецца гаспадаркай. Сынавая кожны дзень прыносіць свежае малако. Бабулька за пільнаванне дзяцей атрымоўвае пенсію — 1200 зл. Невысокая пенсія ў дачкі, а купіць жанчынам трэба ўсё — апал, харчы. Бабулька Дамініка часам выходзіць на панадворак, але даецца ёй гэта з цяжкасцю. Стамляе яе таксама даўжэйшая размова. Бацюшка спавядае бабульку дома. Аднойчы сацыяльная апека з Дубіч прывезла ёй харчовую пачку.



*Дамініка Вілюк з дачкой Марыяй.*

Дамініка Вілюк ніколі не была ў бальніцы, а гэта, мабыць, таму, што п'е зёлкі (святаяннік і ліпавы цвет). У бабулькі дзесяцера праўнукаў. Ці памяталі яны пра 113 гадавіну з дня яе нараджэння?

**Славамір Кулік**

*Фота аўтара*

# Спорт у белліцэі

Штораз лепшыя вынікі атрымоўваюцца ў спартсменаў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. У мінулым навучальным годзе валейбалісты гэтай школы апынуліся ў першай лізе сярэдніх школ у ваяводстве. Паспяхова змагаюцца таксама лёгкаатлеты. У першым туры спартыўнага агляду, які праходзіў у Бельску-Падляшскім, Анна Швед заваявала другое месца ў ваяводстве ў бегу на 100 метраў. Падчас вулічнага бегу на кубак бурмістра Гайнаўкі, які адбыўся 27 верасня г.г., перамагла дружна белліцэя. Сярод дзяўчат Агнешка Кучко прыбегла як другая, Анна Бірыла — трэцяя, а Анеля Літвінюк — шостая. З ліку хлопцаў трэцім на мэту прыбег Пётр Люнда, на чацвёртым месцы апынуўся Марк Якімюк, а на пятым — Андрэй Іванюк.

**Славамір КУЛІК**

# Дэфіцытны тавар

Аб чаромхаўскім гандлі я пісаў неаднойчы. Мноства крамаў, надзвычайнае забеспячэнне таварамі, канкурэнтныя цэны. Усё як у рынкавай эканоміцы. Аднак у нашай мясціне з'явілася апошнім часам праблема: дзе купіць сала?

Пры камуне ў кожнай вясковай краме можна было купіць гэты тавар, хоць каўбас не заўсёды хапала. Зараз наадварот — розных відаў каўбас у кожнай краме хоць адбаўляй, а сала прадаецца зараз толькі ў адной, і стала яно дэфіцытным таварам, бо яго рэдка можна купіць у пасёлку.

Думаеце, жартую? Не, даражэнькія, праўду кажу!

Вось вам прыклад: панядзелак, 13 кастрычніка. Зараз жа пасля восьмай зранку я заглянуў у краму „Дукат".

— Сала у вас ёсць? — пытаю прадаўшчыцу.

— Мы прадаем гатовыя мясныя вырабы, — паясніла прадаўшчыца. — Не маем умоў для гэтага.

— А дзе можна купіць?

— Пэўна ў Залеўскага...

У фірменнай краме кляшчэлеўскай каўбаснай (прадпрымальнік Залеўскі) прадаўшчыца адказвае, што зараз сала няма.

— А калі будзе? — пытаю.

— Можа заўтра... а можа і заўтра не прывязуць, бо як прададуць на месцы, дык у нас не будзе.

Будзе ці не будзе сала ў краме? Трэба гадаць зараз чарамшукам. А такі тавар заўсёды спатрэбіцца чалавеку ў хаце. Ды не кожны яго мае. Выходзіць, што за салам трэба ехаць у Беласток ці сталіцу, бо ў наваколлі Чаромхі наўрад ці знойдзецца.

Хачу прытым адзначыць, што праблема з'явілася, калі адкрылі дарожны і чыгуначны пагранічныя пераходы і суседзі з-за мяжы хлынулі да нас. І гэта беларускія турысты выкупляюць у нас сала.

Калі ў Высокім ці Брэсце за сала трэба заплаціць 2—2,5 долара, у Чаромсе лепшае сала можна купіць за 3,5 злота (1 долар).

Я сам быў сведкам, як у Бельску на рынку „рускія" сварыліся за сала каля прыватнай будкі. А ў кляшчэлеўскую каўбасную едуць „рускія" на аўтамабілях і там усё сала оптам выкупляюць.

І што ж вы на гэта, паважаныя гандляры? Няўжо ж вы не зможаце дагадзіць грамадству і беларускім турыстам такой дробяззю?

Мне, проста, гэта смешна!

**Уладзімір Сідарук**

# Вечар паэзіі

10 кастрычніка ў Бельскім доме культуры прайшла аўтарская сустрэча Надзеі Артымовіч.

У сямідзесятыя гады паэтэса працавала ў гэтай установе і арганізавала падобныя сустрэчы. Цяпер ёй самой давялося выступіць у ролі госці, па запрашэнні Альжбеты Тамчук. Паслухаць яе прыйшлі сябры, знаёмыя, зацікаўленыя прыгожым словам старэйшыя і моладзь.

Напачатку вучаніцы беларускага ліцэя прачыталі два вершы: „Свет укінуты ў бельскую байку" і „Ікона, лістападаўскі снег, блакітны ранак". Гераіня вечара расказвала пра свае паэтычныя інспірацыі, пра тое, чым павінна быць і якія пытанні задаваць паэзія ды пра асаблівае значэнне ў яе жыцці і творчасці двух гарадоў: Варшавы і Бельска. Затым чытала менш вядомыя вершы з розных гадоў і зборнікаў. Некаторыя тут жа канфрантавала з перакладамі на польскую мову. Некалькі давялося прачытаць па жаданні слухачоў.

У падзяцы за супольны вечар і цудоўныя вершы сужонства Іаланта і Алег Кабзары праспявалі паэтцы яе ўлюбёную песню „Клён зялёны". Іншыя, менш адораныя прысутныя дзякавалі кветкамі і стараліся даведацца, калі Надзея Артымовіч парадуе іх новым зборнікам. Іх nomen omen надзея ўмацоўвалася, як зазначыў Яўген Вапа, добрай формай паэтэсы як у час прэзентацыі сваіх твораў, так і ў ходзе дыскусіі. Іх цікаўнасць, на жаль, не была заспакоенай. Надзея Артымовіч, як і яе паэзія, не дае адназначных адказаў.

**М. В.**

# Галубінае хобі

Галубоў можна сустрэць у розных частках свету — у гарадах і на вёсках. Як сімвал любові, дружбы і міру прысутнічаюць яны ў храмах і на алімпійскіх гульнях. Свойскія галубы паходзяць ад скалістага голуба і зараз вядома больш за 200 парод, якія падзяляюцца на асноўныя чатыры групы: мясныя, спартыўна-гонныя, высакалётныя і дэкаратыўныя. Галубамі захапляюцца галоўным чынам мужчыны, а само захапленне пачынаецца ўжо ў раннім юнацтве. Толькі нямногія звязваюцца з галубамі на ўсё жыццё. Галубінае хобі, калісьці вельмі папулярнае, сёння ўжо рэдкая з'ява.

Зараз у Орлі, а мабыць і ва ўсёй гміне, жыве толькі трох галубятнікаў. Можна назваць іх ветэранамі галубінай справы, паколькі гэта людзі сталага і пажылога ўзросту, а птушкамі займаюцца з дзяцінства.

А вось што пра сваё хобі сказаў 70-гадовы **Яраслаў Адзіевіч**, гарбар па прафесіі:

— Цяпер у мяне каля дваццаці галубоў. Раней было іх больш, але ястраб многа выбірае. Пры санацыі трымаў я звычайных галубоў, г.зв. шпукоў, а зараз у мяне ёсць паштавікі, крымы, лысыя, відымы, чайкі. Крым, напрыклад, сам белы, але хвост у яго чорны. Калісці трымаў я галубоў на вышках, пазней пабудаваў галубятню. Побач, у сінагозе, яшчэ перад рамонтам гнездзіліся сотні галубоў. Былі гэта дзікія і паўдзікія птушкі, які корм шукаюць у полі або пры куратніках. Мае гадунцы атрымоўваюць гатовы корм, галоўным чынам зерне збожжавых раслін. Голуб — чыстая птушка і яго мяса таксама чыстае. Раней я часта ездзіў са сваімі галубамі на рынак у Беласток. Там можна было сустрэць беластоцкія крымкі, лёчкі (якіх пер'е ў хвасце і на крылле нагадвае завіўку), гданьскія сокалы і многія іншыя пароды. Праводзяцца выстаўкі пародзістых галубоў, а чэмпіёнамі становяцца найбольш стройныя і прыгожыя экземпляры. Люблю галубоў, бо гэта прыгожыя і разумныя птушкі, якіх можна лёгка прыручыць. Адпачываю, калі выйду за сваю майстэрню, накармлю іх, пагляджу на іх...



*Генрык Вейс і яго галубы.*

Сваімі назіраннямі за жыццём галубоў падзяліўся таксама **Генрык Вейс**:

— Галубы цікавілі мяне з дзяцінства. У двух галубятнях трымаю некалькі дзесяткаў гэтых птушак — звычайных і пародзістых. Галубы — вельмі клапоцяцца пра сваю сям'ю. Абое — самка і самец — сядзяць на яйках і дагладаюць маладых. Кожная пара мае ў галубятні сваё месца, сваю зону, якую ахоўваюць ад сваіх суседзяў пры дапамозе дзюбы. Пародзісты голуб выводзіць толькі адно маладое. Шкада, калі такі малады галубок выкінецца з гнязда або пападзецца ў кашэчыя кіпцюры. Спецыяльна каля галубятняў трымаю двое сабак, каб адпалохвалі катоў. Люблю прыроду, лес і раку. Маё хобі гэта не толькі галубы, але і грыбы, і рыбалка.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Самая важная — пазітывісцкая праца

**Размова з Яўгенам ВАПАМ — старшынёю Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай.**



***— За намі ўжо парламенцкія выбары і кампанія з імі звязаная. Якія першыя рэфлексіі?***

— Перш за ўсё, карыстаючыся нагодай, хачу шчыра падзякаваць усім, якія аддалі за мяне свой голас. Дзякую ўсім, якія вялі тэхнічны бок выбарчай кампаніі, збіралі подпісы. Зразумела, вельмі ўдзячны я Грамадскаму камітэту падтрымкі маёй асобы, які быў мне маральнай апорай. На палітычнай сцэне, на выбарах, я заіснаваў першы раз і быў гэта вялікі ўрок дэмакратыі. Мы разлічвалі, што я атрымаю каля трох тысяч галасоў. Узяў я крыху больш, чым дзве тысячы. Для мяне, асабіста, гэты вынік — доказ, што беларусы Беласточчыны, усё ж такі, адабраюць дзеянні Беларускага саюза і мае, як старышні.

***— Высокае месца на краёвым спіску Уніі працы гарантавала б Вам пасольскі мандат, калі б гэтая партыя атрымала 8—9 працэнтаў галасоў у маштабе краіны. Аднак набрала яна менш галасоў, чым прадбачвалі ўсялякія апытанні (4,7%). Скажыце, у чым прычына такога паражэння Вашага саюза?***

— Вынікі выбараў паказалі, што зноў у краіне настаў гістарычны падзел на камуністаў і антыкамуністаў, а чарговы раз не хапіла праграмнай дыскусіі і праграмнага выбару, на які ставіла Унія працы. Выбаршчыкі рашыліся аддаць свой голас на наймацнейшых. Я не з'яўляюся членам Уніі працы, каб ацэньваць іх кампанію. Ведаю, што адсунуты ад кіраўніцтва Войцех Баравік і Пётр Марцiняк, адказныя за выбары. Калі мы падпісвалі пагадненне, наш саюзнік меў каля 10-ці працэнтаў падтрымкі і цяжка было прадбачыць, што можа пацярпець такое паражэнне. Аднак, гэта і паражэнне Беларускага саюза, калі ідзе пра тое, каб мець свайго пасла ў Сейме.

***— Якія Вашыя высновы з выбарчых рэзультатаў ад Беласточчыны?***

— Выбары на Беласточчыне выдатна пацвярджаюць падзел, які існуе на польскай палітычнай сцэне. Абазначае гэта толькі тое, што шанцаў на самастойнае ўвядзенне беларускага прадстаўніка ў парламент на сённяшні дзень няма. Трэба тут многа зменаў і працы, або далей шукаць месца на сярэдзіне польскай палітычнай сцэны.

***— Папярэднія выбарчыя кампаніі былі даволі агрэсіўнымі, але гэта не давала задавальняючых рэзультатаў. Ці сёлета палітыкі сталі больш памяркоўнымі?***

— Людзі не любяць агрэсіўных палітыкаў і кандыдаты гэта зразумелі. Я заўважыў, што на Беласточчыне кампанія праходзіла спакойна і не было нападкаў, а заклейванне плакатаў, гэта непазбежнасць.

***— Ці Ваш удзел у парламенцкіх выбарах паўплывае на працу арганізацыяў-членаў Беларускага саюза?***

— Выбарчая кампанія праходзіць не так ужо і часта і не павінна спыняць працы нашых арганізацый. Пабываўшы ў розных вёсках і мястэчках, пазнаёміўся я з многімі людзьмі, іх лёсамі і праблемамі, а гэта забавязвае ўлады Беларускага саюза да далейшай працы, улічваючы праблемы, пра якія мы даведаліся ў час вандроўкі па Беласточчыне. Для нас самай важнай з'яўляецца пазітывісцкая праца ва ўсіх галінах жыцця беларускага асяроддзя, якая ёсць шанцам на нашае далейшае існаванне. Мы маем надзею, што ў наступным годзе будзе яшчэ больш мерапрыемстваў, арганізаваных Беларускім саюзам.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Апошнія патрыёты Народнай Польшчы

Мізэрны вынік на парламенцкіх выбарах кандыдатаў са спіска „праваслаўных славян", Яўгена Вапы з Беларускага саюза і Яна Сычэўскага з БГКТ чарговы раз пацвердзіў, што „нашы людзі" зусім не хочуць вылучацца сваёй культурнай і рэлігійнай адметнасцю сярод польскага грамадства. Большасцьназіральнікаў і каментатараў палітычнага жыцця на Беласточчыне звяртала найчасцей увагу на адсутнасць пачуцця нацыянальнай супольнасці тутэйшых беларусаў. Гаварылася і пісалася пра тое, што адзіны фактар, які нас спалучае, гэта праваслаўнае веравызнанне. Аказваецца аднак, што калі „нашым людзям" даецца магчымасць свабоднага выбару паміж кандыдатам, які нечым атаясамліваецца з Польскай Народнай Рэспублікай і праваслаўным ці беларусам, у пераважнай большасці прагаласуюць яны за першага, зусім не звяртаючы ўвагі на яго нацыянальнасць. Ядвіга Рудзінская з СЛД атрымала, напрыклад, у беларускіх гмінах амаль два разы больш галасоў, чым беларускі кандыдат у Сенат Міхал Кандрацюк. Абедзве кандыдатуры ў палітычным жыцці аднолькава малавядомыя.

Сімвалы перыяду ПНР прынцыпова выйграваюць тут з беларускімі і праваслаўнымі. Праграмы паасобных выбарчых камітэтаў не маюць вялікага ўплыву на вынік выбараў. Сацыялістычныя лозунгі Уніі працы астаюцца зусім незаўважальнымі сярод праваслаўнага электарату, які заўсёды лічыўся крайне левым. Праўдападобна не ліберальныя гаспадарчыя прапановы СЛД завабвалі прыхільнасць „нашых людзей", а хутчэй за ўсё туга па мінулай эпосе.

Народная Польшча стварыла беларусам шанц не толькі сацыяльнага і палітычнага авансу, але дала ім, як грамадзянам, усе правы, якія мелі палякі, а асабліва магчымасць без ніякага прыніжэння стацца палякамі. Наш люд, які па палітычных і гістарычных прычынах, не атрымаў дару пачуцця нацыянальнай супольнасці, не пратэставаў нават, калі адбіралі яму чарговыя элементы яго тоеснасці.

Ад канца XIX стагоддзя была ў нас заўсёды нацыянальная эліта, якая жыла ідэяй стварэння агульнабеларускай супольнасці, якая адпавядала б дэфініцыі сучаснага народу. Часам удаецца ёй з'яднаць для беларускасці пэўную частку грамадства, але зараз нейкія метафізічныя сілы пускаюць у рух такія разбуральныя працэсы, што свядомыя беларусы пачынаюць ненавідзець усё беларускае, ідуць у нейкія нацыянальныя секты, а найчасцей кідаюцца ў зніштажальнае нас шаптанае самаедства. У нашай традыцыі няма ўзораў адкрытага змагання пры захаванні нейкіх прынцыпаў і пашаны для канкурэнцыі, затое выступае ва ўсялякіх варыянтах чыстая азіяцкая хітрасць.

Кожная ўлада паспяхова кансервавала гэтыя традыцыі і знакаміта выкарыстоўвала нашы групавыя прыкметы. Пасля вайны польскія камуністы пачалі ствараць новы тып патрыятызму. Не адкідаючы культурнай польскай спадчыны, патрабавалі яны ад палякаў яшчэ толькі любові для сацыялізму і Савецкага Саюза. Палякі такую прымушанасць да кахання новай ідэалогіі і саюзніка ўспрымалі як гвалт над іх псіхікай. Ад беластоцкіх беларусаў патрабавалася такіх самых пачуццяў. Аднак у адрозненні ад палякаў „нашым людзям" пачуццё блізкасці Усходу, а затым і сацыялізму, было нечым натуральным.

У 1980 годзе салідарніцкі рух як бы рэанімаваў да грамадскага жыцця лозунг „Polak-katolik". Нашым людзям — праваслаўным веруючым і атэістам — салідарніцкая рэвалюцыя разбурыла ўсе падставы іх ідэалагічнага асэнсавання. Пачыналі яны ўжо адчуваць сябе амаль палякамі, калі палякі аб'явілі, што польскасць пабудаваная ёсць на зусім іншых структурах, чым ім здавалася. „Салідарнасць" знішчыла „нашым людзям" гарманічнасць, якую ў час ПНР мелі яны ў галіне палітыкі і светапогляду. У рэчаіснасці на Беласточчыне заіснавалі дзве катэгорыі палякаў — каталікаў і усялякіх „рускіх прышыванцаў". Тыя другія ўспрымаліся першымі як элемент савецкага свету, супраць прысутнасці якога бунтавалася „Салідарнасць". Кожны, хто з беларуска-праваслаўнага асяроддзя дэкляраваўся прыхільнікам салідарніцкага руху, ставіў сябе звонку „нашай" грамадскасці. З другога боку, туга па спакойным, простым, зразумелым пэнэраўскім светам стала асноўным паказальнікам палітычнай актыўнасці „нашых людзей". Беларускі фактар у гэтым палітычным краявідзе аказаўся малаважным і неістотным. Апошнія выбары развеялі таксама міф праваслаўя як незалежнай палітычнай сілы, аб'ядноўваючай люд гэтага веравызнання. Слабасць беларускага палітычнага руху спрыяе таму, што Беласточчына дзеліцца на каталіцка-салідарніцкую і праваслаўна-эсэльдоўскую. Небяспека гэтага стану заключаецца ў тым, што нейкія палітычныя канфлікты лёгка могуць пераносіцца на нацыянальна-рэлігійны грунт. З'яўляемся толькі элементам гульні, якая вядзецца без нашага ўдзелу.

**Яўген Міраковіч**

# Меншасці ў тэлевізары

**Праграма Беластоцкага тэлебачання „Самі пра сябе" атрымала ўзнагароду журналістаў на першым Міжнародным фестывалі фільмаў і тэлеперадач пра нацыянальныя меншасці. Фестываль праходзіў у днях 9—12 кастрычніка ў Кракаве і Пярэмышлі.**

Арганізавалі мерапрыемства Кракаўскі асяродак Польскага тэлебачання. Пярэмышль на месца правядзення фестывалю быў выбраны галоўным чынам таму, што апошнімі гадамі здараліся там шматлікія польска-ўкраінскія канфлікты.

„Мы не чакаем, што дзякуючы нашаму фестывалю знікнуць нацыянальныя канфлікты, нецярпімасць ці ксенафобія, — напісалі арганізатары ў інфармацыйным буклеце. — Аднак вядома, што прадузятасці найчасцей бяруцца з няведання. Наш фестываль якраз знаёміць з тымі іншымі, няведанымі. У прысланых з усяго свету фільмах можна ўбачыць як жывуць меншасці ў розных краінах, якія ў іх праблемы, як ставіцца да іх большасць".

На фестываль паступіла больш за сто фільмаў з такіх краін, як Албанія, Вялікабрытанія, Германія, ЗША, Кітай, Нарвегія, Новая Зеландыя, Польшча, Эстонія і іншыя. Камісія, пад старшынствам Кшыштафа Занусі, дапусціла да конкурсу 23 фільмы. Перамог „Палёт", зроблены эстонскім тэлебачаннем. Паказаная ў ім дэнацыяналізацыя дзяцей заходнесібірскага народа хантаў, якіх вывозяць верталётам у школу ў горад, у чужы, не бачаны імі раней свет. Узнагароды атрымалі таксама аўтары нямецкага фільма „Плошча Еўропа. Маладыя туркі" аб праблемах народжаных у Нямеччыне туркаў і англійскага „Тонкая чорная лінія" — пра каляровых афіцэраў брытанскае паліцыі.

Разам з аглядам фільмаў праходзіў семінар для журналістаў, якія займаюцца этнічнымі справамі. Яго ўдзельнікі стараліся адказаць на пытанні: чым розніцца праца ў мас-медыях нацыянальных меншасцей ад тых з агульнанацыянальным абсягам? Ці журналіст, які займаецца нацыянальнымі праблемамі можа быць аб'ектыўны, ці можа набыць высокі прафесіяналізм і, адначасна, заставацца верным свайму культурнаму колу? Як змагацца са стэрэатыпамі і прадузятасцямі?

У рамках семінара прэзентаваліся чатыры перыядычныя праграмы пра нацыянальныя меншасці: брытанская, венгерская, нямецкая і польская. З Польшчы была паказана беластоцкая праграма „Самі пра сябе" і менавіта за яе прагаласавала найбольш удзельнікаў семінара.

Гэтая ўзнагарода паказвае чым, якой тэматыкай Беластоцкае тэлебачанне можа быць цікавае іншым. Але з другога боку, можа ўпэўніць дырэкцыю ў слушнасці канцэпцыі перадачы „Самі пра сябе" — сарака хвілін упрамешку пра розныя меншасці паўночна-ўсходняй Польшчы ды палякаў з Беларусі і Літвы. Нагадаю, што беларуская арганізацыі выступалі супраць такой мяшанкі і патрабавалі стварыць асобную беларускую рэдакцыю.

Неўзабаве Беластоцкае тэлебачанне будзе выходзіць у эфір на сваіх асобных частотах, а не толькі, як цяпер, у выдзеленым з агульнапольскай „двойкі" часе. Загадкай, пакуль, застаецца, якое месца і колькі часу атрымаюць тады нацыянальныя меншасці. У якой форме прысутныя будуць на экранах беластоцкіх тэлевізараў беларусы?

**Мікола Ваўранюк**

# Бар „У Алеся”

*(працяг, пачатак у 42 н-ры)*

## 2. Поўдзень

Бар памаленьку запаўняецца. Адны прыходзяць, другія выходзяць, а ў сярэдзіне і так гусцей ды гусцей. У гэтых адносінах бар „У Алеся” можна параўнаць з нашай матуляй- зямелькай. Сюды таксама прыходзяць людзі і выходзяць, а ў канчатковым рашэнні больш нас і больш. Адно якісьці катаклізм, як патоп, землятрус ці агульны мардабой адварочваюць на нейкі час гэтую дэмаграфічна небяспечную тэндэнцыю. У гісторыі зямлі канец свету здараецца вельмі рэдка. Апошні патоп наведаў нас так даўно, што сёння гэты факт не мае ніякага значэння. У гісторыі Алесевага бара катаклізмы здараюцца значна часцей і заўжды абвяшчаюцца арханёльскімі трубамі раз'юшаных жанок. Халасцякі выходзяць з катастрофы пераважна без шкоды. Аналізуючы рэзультаты шлюбнага сінтэзу не спяшаюцца з жаніцьбой.

Аднак сённяшні дзень спакойны і можна мець надзею, што датрывае да канца непарушаны ніякімі лішнімі эксцэсамі.

Вось забеглі два хлапчукі. Нічога не заказваючы, разлажылі на прылаўку свае картачкі актыўнасці беспрацоўных. Алесь прылажыў пячатку, а ў рубрыцы „прапанова працы” напісаў вельмі пажаданае слова „няма”. Хлопцаў таксама ўжо няма. Спяшаюцца вельмі, ледзь не збіваюць з ног лістаносца, які паявіўся якраз на парозе. Алесь не гневаецца. Ён ведае, што хлопцы адстаяць сваю чаргу ў РУП — установе па працаўладкаванні, а потым у банку, затым прыбягуць сюды, каб і яму падзякаваць за вялікае дабрадзейства. Тым часам лістаносец вылузаў з натоўпу Амэльку і сціскаючы ў руцэ нейкую паперку, накіраваўся ў яе бок.

— Амэлька! Амэлька, табе тэлеграма.

Дзяўчына бярэ паперу. „Я цябе патрабую. Стоп. Пайшлі. Стоп”, — чытае і сапраўды кіруецца да выхаду.

Гэты малады лістаносец Адам, бацька шасцярых малалетніх дзетак, ступае за Амэлькай і яшчэ не ведае, што выходзіць на зусім новую і незнаёмую сабе сцежку. Узлёты і падзенні, радасць і роспач, воля і зняволенне — усё станецца ягоным удзелам. Не ведае таксама, што сёння прамантачыць з Амэлькай пяць тысяч не сваіх залатовак, а наступныя пяць тысяч украдуць яму жулікі, калі досвіткам пакорны, з балючай душой будзе вяртацца ў жончыны абдымкі.

Пераступаючы турэмную браму, будзе каяцца і шкадаваць, а калі праз год пяройдзе гэтую ж самую браму, толькі ўжо ў адваротны бок, пачне шкадаваць, што шкадаваў.

Цераз ягоную камеру прамільгне доўгі карагод усякай масці начальнікаў, бізнесменаў і міністраў, а кожны ў Адамавай памяці пакіне нейкі цэнны дар.

Анасіс таксама пачынаў як афіцыянт, а дзякуючы чуткім вушам стаў Анасісам. А мо Бог, дагледзеўшы сваю ранейшую халтуру, задумаў яшчэ раз, нягледзячы на шасцідзённы тэрмін, стварыць новага, лепшага Адама? Гэтым разам з дапамогай добрых людзей на высокіх пасадах.

Нічога наш лістаносец яшчэ не ведае. Дзядзька Кандрат пакуль што моцна спіць і таксама не здагадваецца нават, што Амэлька, на якую з рацыі свайго ўзросту даўно перастаў звяртаць увагу, сёння вечарам будзе пералічваць ягоную пенсію.

Пустое месца ў бары ў працоўны дзень пасля абеду выглядае як свежая дзірка ад вырванага зуба. Язык заўжды стараецца папасці ў гэтую дзірку, разведаць яе, абмацаць. Дзірка ў зубах нікому не прыбаўляе красы.

Пакуль Амэлька апыніцца на тратуары, высокі, худы трыццацігадовы хлопец у джынсавай уніформе зразу запламбуе свабодную табурэтку. Гэта Пеця, здаўна на перспектыўны, хаця яшчэ не друкаваны паэт. Пецем можам не дурыць сабе галаву. Ён толькі што прыйшоў і раней чым у дзесяць вечара не выйдзе.



На вуліцы, невядома адкуль, вырваўся летні дождж. Алесь вельмі любіць такія неспадзяванкі. Дзякуючы непрадбачаным, летнім дажджам, не адзін паважны дзядуля, які выйшаў з хаты, каб насыціць прыгожым сонейкам мо апошнія свае дні, зусім неспадзявана стае перад Алесевым абліччам. У першы момант здаецца яму, што гэта ўжо канец. Не ведае толькі куды папаў: у рай ці ў пекла і хуценька стараецца падсумаваць у думках усе свае добрыя і благія ўчынкі. Алесь у ніякім выпадку не нагадвае аднак ні святога Пятра, ні Антыхрыста і дзядуля, адкрыўшы гэты факт, заказвае адно, а калі вельмі шануе сваю чалавечую абалонку, тады нават і два або тры куфлі. Час адсее зерне ад мякіны. Некаторыя будуць сюды заглядаць ужо пастаянна, павялічваючы Алесеву славу і заможнасць, а пустоту невядома куды панясе вецер.

Сённяшні дождж таксама прыганяе нечаканага госця. Акуратненькі старэча, пад гальштукам, у капелюшы, магчыма што супраць ранейшых сваіх намераў апынуўся ля прылаўка.

— Толькі пад рыску налівай, — загадвае Алесю і зараз жа вядома, што чалавек служыў айчыне нейкім кантралёрам або інспектарам. Алесь заўжды напаўняе куфаль пад рыску. Можа адвячоркам, калі і за акном, і ў вачах пачынае змяркаць, здараюцца невялікія памылкі, аднак апоўдні — ніколі.

— Адступі, дзед! — булаваты кавалер бесцырымонна прапіхаецца да прылаўка.

Любому чалавеку скажыце, напрыклад, так: „Адступіце, спадар таварыш кітайскі мандарын”, — а ён праўдападобна не раззлуецца. А паспрабуйце сказаць такому: „Адступі, дзед!”

Кажуць гісторыкі, што ад сямі куляў выстрэленых у горадзе Сараеве пачаўся вялікі, сусветны мардабой. Калі гэта праўда, што адно прымітыўныя асобені выклікаюць усякую калатнечу з дапамогай рэвальвераў, аўтаматаў або танкаў, калі ўсё гэта праўда, тады пра булавата можна сказаць, што ён выдатны, тактоўны палітык. І малаважнае, што не хадзіў у Кембрыджы ды Оксфарды. У нашай частцы Еўропы нават сярод прэзідэнтаў здараюцца самавукі і зусім спрытна спраўляюцца з патрабаваннямі высокай пасады. „Адступі, дзед”, — гэтых слоў не прачытаеце ў гістарычных падручніках, усё-такі ведайце, што і яны, калі засеюцца на ўспрыімлівы грунт, змогуць адвярнуць ход падзей не менш паспяхова за тыя няшчасныя сем куляў, адрасаваных эрцгерцагу Фердынанду.

— Толькі не „дзед”! Толькі не „дзед”! Я на вайне быў. Я ваяваў, калі ты... Калі цябе яшчэ на свеце не было, — папраўвіўся.

— Усе ваявалі, дзед. А дзе двух ваюе, там тры героі.

Кожны, хто цяпер бачыць гэтага ананімнага ветэрана, адразу разумее, чаму мы перамаглі ў апошнюю вайну. Адным позіркам змог бы ён прыціснуць да зямлі ўвесь варожы батальён. Раскірэчаны на кароценькіх, моцных нагах, рукамі малоціць паветра, а гальштук падскоквае, быццам бы хацеў дапамагчы свайму ўласніку.

— Я паўстанцам быў. А ты што? Ты хто? Дзе ты быў?!

— Амэлька! — булаваты адварочвае галаву, шукае ў натоўпе знаёмую постаць. — Амэлька, хадзі, паглядзіш, які там у яго паўстанец!

Амэлькі, як ведаеце, ужо ў бары няма і паўстанцкая вартасць незнаёмага ветэрана астаецца неправеранай.

Натоўп рагоча і гэты рогат, вырваны з падмацаваных півам жыватоў, б'е аб сцены, калоціць столікамі. Там-сям бразгае куфаль і, пацалаваўшы тэрацавы паркет, назаўжды пакідае хмелевы астрог. Ветэран, тым часам, вырваўшыся з блытаніны чужых рук і ног з вялікім здзіўленнем аглядае свой крышку прытаптаны капялюш, дрыжачымі рукамі стараецца вярнуць яму ранейшую форму. У рэшце рэшт, махнуўшы рукой, садовіць гэты дзіўны прадмет, які цяпер больш чым элемент гардэроба нагадвае разбуранае ветрам вароніна гняздо, на назначанае яму месца.

— Нічога... святога... няма для вас! — выстрэльвае апошнюю амуніцыю і пачынае адступаць на раней прадбачаныя пазіцыі, гэта значыць — на вуліцу. Здаецца, другі раз ён сюды не загляне.

*(заканчэнне будзе)*

**Міхась Андрасюк**

*На здымку — аўтар.*

# Дзень турызму

27 верасня — Сусветны дзень турызму. З гэтай нагоды Пачатковая школа ў Дубічах-Царкоўных арганізавала веласіпедную краязнаўчую экскурсію для вучняў VII і VIII класаў. Яе маршрут пралягаў праз абязлюджаную прыгранічную зону ад Чаромхі цераз Кляшчэлі ў Дубічы, а моладдзю апекаваліся выхавацель VII класа Уладзімір Місяюк і ніжэйпадпісаны.

Спачатку юныя турысты спыніліся ў саснова-піхтавым запаведніку Чахі, затым у Вэрстоку пагледзелі 200-гадовую Уздзвіжанскую царкву. У Войнаўцы ўдзельнікі экскурсіі высвятлялі паходжанне назвы вёскі (патранімічная назва ад прозвішча Война) і знаёміліся з гісторыяй двара, які існаваў непадалёк вёскі ў даваенны перыяд.

У Белай Стражы мы даведаліся, што жыве там 14 сем'яў, у тым ліку 2 праваслаўныя. Каталіцкі энклаў на рускіх землях — гэта вынік мазавецкага засялення апусцелай тэрыторыі пасля I сусветнай вайны. Чацвёра дзяцей даязджаюць з гэтай вёскі ў школу ў Кляшчэлях (у мінулым годзе была ліквідавана школа ў суседняй Палічнай).

На дарозе ў Вялікую Апаку нашу групу скантралявалі пагранічнікі. Калісь і тут была школа, а мяч са спартыўнай пляцоўкі што і раз трапляў на гранічную паласу. Але клопатаў з гэтай прычыны не было, бо на месцы знаходзілася пагранзастава. Цяпер вёска моцна абезлюдзела. У 20 дамах жывуць тут толькі 33 асобы. Некалі ў Апацы жыло 38 сем'яў. Цяпер толькі чацвёра дзяцей ходзіць у школу ў Чаромсе, а адна дзяўчынка — у Кляшчэлі. На вясковым могільніку стаіць невялікая царкоўка. Багаслужбы адбываюцца ў ёй сем разоў у год, а служыць у ёй а. Іосіф Вайцюк з Вэрстока.

„Калісь гналі ў нас добры самагон, — успамінаў пажылы вясковец, які сядзеў на лавачцы. — Пачалося гэта пры немцах. Самагонаварэннем займаліся ўсе. Бочку для брагі перакочвалі з аднаго канца вёскі ў другі. Яшчэ ў сямідзесятых гадах з каністрамі прыязджалі да нас за збожжавым самагонам. Хаця штрафавалі, але людзі гналі далей. Цяпер ужо няма каму гэтым займацца”.

З-за апацкіх клуняў пагледзелі мы яшчэ зарослую дзяржаўную граніцу і паехалі ў Чаромху. Па дарозе спыніліся мы пры краме ў Вульцы-Тэрахоўскай. Пра вёску расказала нам прадаўшчыца Надзея Пашкевіч. Жывуць тут сяляне і чыгуначнікі, працуе фальклорны калектыў „Вульчанкі”. На працягу дваццаці гадоў самадзейніцы сотні разоў выступалі перад публікай, гасцявалі ў Сопаце і Луцку. У 1980 годзе вяскоўцы пабудавалі царкву. Ёсць тут і свой царкоўны хор. Настаяцелем прыхода з'яўляецца а. Георгій Крысяк.

Абавязкі солтыса вёскі выконвае Галіна Назарук. У цэнтры сяла знаходзіцца магіла ахвяр вайны 1939 г. На ўскраіне вёскі раскінулася сядзіба лясніцтва Баравіна, якім кіруе ляснічы Богдан Гас.

У Чаромсе юныя турысты крыху адпачылі пры камп'ютэрных гульнях у адной з прадуктовых крамаў, затым падаліся на шпалапрапітачны завод. Існуе ён з 1939 года і зараз працуе ў ім 76 чалавек. У Польшчы існуе пяць такіх заводаў. У Чаромсе прапітваюць драўніну крэазотам, галоўным чынам шпалы, стаўбы для вырошчвання хмелю і дошкі. Праца на заводзе небяспечная для здароўя і рабочыя раней адыходзяць на пенсію. Пры заводзе ёсць свая ачышчальня сцёкаў, да якой падключаны чатыры завадскія жылыя блёкі. Неўзабаве завод будзе прыватызаваны.

Чарговым этапам экскурсіі былі Кляшчэлі. У мястэчку наведалі мы адкрытую ў 1996 годзе новую школу. Дырэктар Ежы Якубоўскі сказаў нам, што школу пачалі будаваць 11 гадоў таму і першапачаткова меў гэта быць дом культуры. Цяпер вучыцца ў ёй 264 вучняў не толькі з Кляшчэль, але і з Палічнай, Дабрывады, Курашава і Белай Стражы, а за год дойдуць яшчэ вучні з Дашоў. Заняткі вядзе 24 настаўнікаў. Сталовай карыстаецца 200 асоб. Ужо год будуецца спартыўны зал, але з-за недахопу грошай будаўнічыя работы прыпыніліся. Дырэктар мяркуе, што будова завершыцца ў 1998 годзе. У школе вучні маюць магчымасць вывучаць англійскую і нямецкую мовы. Беларускай мове вучыцца ўсяго 20% вучняў. Школа вылучаецца сваёй незвычайнай арыхітэктурай. Асабліва вялікі ў ёй актавы зал, у якім праводзяцца таксама гарадскія мерапрыемствы.

Па дарозе ў Елянку праехалі мы ля аднайменнага запаведніка, а 200 м за вёскай заўважылі нядаўна адкрытую лясную стаянку для аўтамабіляў.

На працягу сямігадзіннай экскурсіі праехалі мы 45 кіламетраў. Хаця на трасе былі невялікія дарожныя аварыі і ўсе моцна стаміліся, вярнуліся мы ў Дубічы задаволеныя. Дзякуем усім, хто дапамагаў нам у ходзе экскурсіі.

**Славамір Кулік**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## „Зграны” клас

Нядаўна „Зорка” мела гонар пазнаёміцца з сімпатычнымі вучнямі класа VI „ц” бельскай „тройкі”. У час двухгадзіннай сустрэчы была нагода пагаварыць пра нашу газетку і паслухаць выказванні моладзі пра іх школьныя і жыццёвыя справы.

**Агнешка Брэнка:**

— Наш клас невялікі, усяго 23 асобы. Мы моцна сябруем, пра нас гавораць „зграны” клас. Нашы хлопцы не агрэсіўныя, яны не дзяруцца за абы-што на перапынках.

**Мірка Леанюк:**

— Хлопцы і дзяўчаты дапамагаюць сабе ўзаемна. Найчасцей у навуцы, паясняем на перапынках цяжкія ўрокі, часам даем перапісаць цяжкія задачы.

**Адам Банькоўскі:**

— Раней у нашым класе было больш дзяцей. Некаторыя з іх перасяліліся ў Беласток. Добра што дайшлі новыя сябры з іншых бельскіх школ. Нашай выхавацелькай ёсць спадарыня Зоя Сачко-Каролька.

**Галена Іванюк:**

— Амаль усе з нашага класа падпісваюцца на „Ніву”. Беларускай мове вучылі нас раней сп. Філіпюк, сп. Банькоўская, а зараз, з шостага класа сп. Валянціна Бабулевіч.

**Міхал Мартынюк:**

— Наш клас любіць беларускую мову.

**Ася Марчук:**

— „Зорку” чытаю з цікавасцю. Мне найбольш падабаюцца нарысы пра слаўных беларусаў, артыкулы пра гісторыю Беларусі, міфы старой Беларусі, апавяданні.

**Адам Банькоўскі:**

— У „Зорцы” вельмі цікава пішуць старэйшыя сябры з нашай школы: Жанэта Роля і Міхась Сцепанюк. Я хацеў бы даведацца, як яны сталі вашымі журналістамі?

**Валянціна Бабулевіч:**

— У гэтым класе я назіраю сапраўданае зацікаўленне роднай мовай, некаторыя, як Ася Марчук, многа чытаюць і вельмі добра размаўляюць па-беларуску.

**Ася Марчук:**

— З нашага класа многа асоб прымала ўдзел у дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Гэта былі: Мірка Леанюк, Магда Рыжык, Адам Сцепанюк і Адам Банькоўскі. Мы цешыліся, калі наш сябра Адам Банькоўскі апынуўся сярод лаўрэатаў цэнтральнага конкурсу паэзіі.

**Адам Банькоўскі:**

— Напэўна нялёгка вывучыць беларускую мову. Але мне вельмі падабаецца, калі заязджаю ў вёску да бабулі і магу з ёй гаварыць пасвойму. Я тады вельмі шчаслівы, бо адчуваю сябе такім самым як і мая сям'я.

**Лукаш Нікалаюк-Стасюк:**

— На днях збіраемся пайсці ў Студзіводы і наведаць скансэн Дарафея Фіёніка. Мы хочам як найбольш даведацца пра жыццё нашых продкаў.

**Адам Сцепанюк:**

— Вясною хочам паехаць на экскурсію ў Карканошы. Плануем таксама наведаць Чэхію. А цяпер вельмі перажываем найбліжэйшыя экскурсіі па наваколлі. Яны напэўна дапамогуць нам больш шанаваць месца нашага пражывання.

**Зорка**

## Браты

**(беларуская народная казка**

Даўным-даўно жылі на свеце два браты. Аднаго звалі Грышка, другога — Раман. Даведаліся браты, што далёка, за трыдзевяць зямель, ёсць залатая гара. Задумалі яны туды дабрацца. Узялі з сабой стрэльбы і адправіліся ў дарогу.

Ішлі яны вельмі доўга, але далёкая дарога сходзіла ім хутка і весела. Браты супольна перамаглі ўсе напатканыя на шляху перашкоды. Дабраўшыся да гары яны набралі золата і пайшлі назад. У лесе спыніліся на адпачынак. Старэйшы брат моцна заснуў. Тым часам малодшы ўзяў стрэльбу і пайшоў пашукаць вады. Раптам ён пачуў шорах. Хлопец азірнуўся і ўбачыў, што да спячага брата падкрадаецца вялікі звер. Прыцэліўся малодшы брат і выстраліў у звяра. На другі дзень браты пайшлі далей. Але хутка малодшы брат так стаміўся, што далей не мог ісці. Яны зноў спыніліся на адпачынак. Калі малодшы заснуў, старэйшы ўзяў золата і пайшоў дамоў. Не хацелася яму дзяліць скарбу. Падумаў, вярнуўся і забіў спячага брата. А сам закінуў мяшок з золатам на плечы і пайшоў. Па дарозе сустрэлі яго разбойнікі і адабралі золата. Адзін старэйшы брат не мог ад іх абараніцца. У хвіліну сваёй смерці зразумеў, што аднаму немагчыма жыць на свеце. Але ўжо было запозна!



*Восень — добры час для гульняў. На здымку: хлопцы з Гарадка.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Вера БУЛАНДА**

## Амонімы

Давайце ўспомнім, дружбакі,
Маіх амонімаў сакрэт:
Адзін з іх — з лесам сваякі,
Другі — хімічны элемент.

**(Бор)**

Ён тое, з чаго пачынаецца род.
А ў дрэве — і ствол, і лісце, і плод.
Калі кемным розумам можаш
дайсці,
І ў матэматыцы лёгка знайсці.

**(Корань)**

Каб мяч маглі вы перадаць
Сваім сябрам у час гульні,
Вам варта слова пракрычаць,
Што носіць знакам рамяні
Для прывядзення ў рух машын...

З трох літар слова, склад адзін.

**(Пас)**

Калі на ўвазе маем мы
Нешта несапраўднае,
З разраду грубае маны,
Якая нас не радуе.

Мы слова гэта падаём
Непрымірыма-з'едліва.
У ім і дрэва пазнаём.
Калі хто з нас ёсць кемлівы.

**(Ліпа)**

З трох гукаў слова — калі ласка —
Вам невялікая падказка.
Адно — драпежнік
з пышнай грывай,
Сустрэцца з ім —
не быць шчаслівым.
Затое на балгарскім рынку
Якраз грашовая адзінка.

**(Леў)**

## Польска-расейскае змаганне за Беларусь

Беларуская Народная Рэспубліка, якая ўзнікла 25 сакавіка 1918 года, не паспела замацавацца, каб магчы абараніцца ад агрэсіўных суседзяў — палякаў і расейцаў, якія ў 1919 г. кінуліся на нашу Бацькаўшчыну. Зняволенне Беларусі з захаду ішло пад лозунгам „свабоды для польскіх крэсаў”, а з усходу — „свабоды для рабочых і сялян Еўропы”. Першымі ластаўкамі свабоды, — пісаў беларускі гісторык Усевалад Ігнатоўскі, — быў біч і вінтоўка польскіх легіянераў. Ліквідацыя беларускага школьніцтва, створанага ў час нямецкай акупацыі, была першым крокам новых улад у адносінах да беларусаў. Тэрор, масавыя расстрэлы сялян, якія ўчыняліся жаўнерамі, паспрыялі ўзнікненню антыпольскага беларускага партызанцкага руху. Вясной 1920 года расейскія бальшавікі прагналі палякаў і пачалі наводзіць у Беларусі свае парадкі. Чырвонаармейцы, якіх Ленін паслаў на захад, ішлі рабіць парадак у цэлай Еўропе. У Беларусі мардавалі яны памешчыкаў, багатых сялян, рабавалі жыхароў з усялякай маёмасці. Неўзабаве ўзнік таксама антыбальшавіцкі партызанцкі рух „Зялёны дуб”, мэтай якога стала змаганне за незалежную Бацькаўшчыну са зброяй у руках.

У жніўні 1920 года палякі стрымалі марш бальшавікоў на захад і фронт вярнуўся на Беларусь. Зноў беларуская зямля, знішчана вайной, стала карміць акупацыйныя арміі, зноў беларуская тэрыторыя была падзелена акопамі варожых войск. У заходняй Беларусі палякі бязлітасна знішчалі ўсё, што беларускае, ва ўсходняй — бальшавікі, адкідаючы ўсе ідэі незалежнасці, стваралі камуністычную беларускую дзяржаву, падпарадкаваную маскоўскаму кіраўніцтву.

Беларускі ўрад падаўся на эміграцыю ў Літву. Частка беларускіх палітыкаў асталася на Беларусі, разлічваючы, што палякі дадуць беларусам палітычную і культурную аўтаномію, ці нават, паводле бальшавіцкага ўзору, створаць нейкую марыянетачную дзяржаву. Палякі, аднак, вырашылі апалячыць беларусаў.

## Вясёлы куточак

* * *

Настаўнік пытае Яся:

— Ці праўда, што морква вельмі карысная для вачэй?

Ясь:

— А ці нехта бачыў зайца ў акулярах?

* * *

Вяртаецца Ясь са школы.

— Як там было? — дапытваецца мама.

— Атрымаў пяцёрку!

— Як гэта? — не верыць маці.

— Двойка з матэматыкі, двойка з музыкі і адзінка з гісторыі.

* * *

Колькі асоб працуе на гэтай будове? — пытае ў рабочых кантралёр.

— Разам з майстрам сем асоб.

— А без майстра?

— Без майстра ніхто не працуе.

**Даслаў Томэк Дзямянюк з Падрэчан, вучань VI класа ПШ у Чыжах**

*Заняткі беларускай мовы ў Беластоку. З дзеткамі працуе настаўніца Аліна Ваўранюк.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК



## Вершы Віктара Шведа

**Матэматыка**

Настаўнік запытаў Адама:
— Калі вось выдасць твая мама
У магазіне сорак злотых
Сабе на новенькія боты,
А дзевяноста за спадніцу,
Яшчэ за блузку злотых трыццаць,
Дык колькі будзе вінавата?
— Будзе афёра ў хаце з татам.

**Ці ты любіш школу?**

— Скажы, Мікола,
Ці ты любіш школу?
— Люблю, вядома,
Калі сяджу дома.
Найбольш, менавіта,
Калі яна закрыта.
Менш люблю, братка,
Калі я на занятках.

# Міфы старой Беларусі

**7. Ваўкалак**

Ваўкалак — лічылі нашы продкі — гэта чалавек пераўтвораны кім-небудзь або сам сабою ў ваўка.

У ваўкалака не ўсё цела пакрытае поўсцю. Дзе-нідзе відаць чалавечае цела. У яго вялікая галава з чатырма вокамі і такім спосабам ваўкалак бачыць на ўсе бакі.

На думку беларусаў, ёсць два віды ваўкалака. Да першага належаць знахары, якія знаходзяцца ў кантакце з нячыстай сілай. Набываюць яны звярыныя ўласцівасці, робяцца крывважэрнымі нават больш за сапраўдных ваўкоў. Нападаюць яны не толькі на хатнюю жывёлу, але і людзей, асабліва на малых дзяцей. Яны не ядуць ахвяр, а толькі высмоктваюць з іх кроў, мозг і такім чынам амалоджваюць сябе. Другі від ваўкалака — гэта ахвяра знахарскіх пераўтварэнняў. Яны больш падобныя на хатнюю жывёлу. Такі не губляе чалавечых пачуццяў, часта глуха стогне як хворы, або жаласліва вые. Гэты ваўкалак найчасцей сляпы або з адным вокам. Пасля некалькіх дзён, месяцаў або гадоў, пакуль не згасне знахарская моц, вяртаецца да чалавечага выгляду. За кожным пераваротам у ваўкалака ягонае жыццё намнога скарачаецца.

А вось, як апісвае рускі этнограф Павел Шэйн пачутую на Беларусі практыку пераўтварэння ў ваўкалака:

*Ёсць такія чараўнікі. Іх нельга ні забіць, ні злавіць. Перад тым, як ператварыцца ў ваўка, чараўнік заганяе ў зямлю пяць асінавых калоў у патаемным месцы. Гэтыя калы расстаўляе так, каб два з іх нагадвалі пярэднія ногі, два заднія, пяты — хвост. Скачучы наперад цераз усе, пачынаючы ад задняга кала, ён становіцца ваўком. Калі захоча зноў абярнуцца ў чалавека, трэба зноў скакаць праз тыя калы, але ў адваротным напрамку і задам наперад. Калі нехта выцягне калы, чараўнік назаўсёды астаецца ваўком.*

Беларусы верылі, што ў ваўкалакаў можна пераўтварыць вясельны воз, на якім едзе 12 чалавек. Чараўнік яшчэ перад ад'ездам гаворыць закляцце і кідае цераз воз гарошыну, узятую са струка з 12 зернямі. Найлягчэй зачараваць вясельнікаў на месцы, у якім сустрэліся і пабіліся два вяселлі. Пасля пераўтварэння ваўкі скачуць з вазоў і жаласна выюць, а перапалоханыя коні з пустымі вазамі ўцякаюць дахаты. Адратаваць зачараваных вясельнікаў можна частуючы іх вясельным караваем, іграючы ім на скрыпцы вясельныя песні, сцелючы перад ваўкалакам уласны пояс, ручнік або накінуць на такога абрус, на якім асвячаліся велікодныя стравы.

PS. Назавіце творы ў беларускай літаратуры, дзе героі пераўтвараюцца ў ваўка.

# Конкурс, конкурс, конкурс!

**(літаратурныя гульні)**

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце на працягу трох тыдняў. Аўтары правільных адказаў (трэба адказаць прынамсі на тры пытанні) возьмуць удзел у жарабёўцы, у якой можна выйграць цікавыя кнігі.

**Увага!** У конкурсе могуць прымаць удзел ліцэісты.

1. Назавіце сапраўднае прозвішча Янкі Лучыны.
2. Якому беларускаму паэту пастаўлены надмагільны помнік у Кракаве?
3. На якой мове Мікола Гусоўскі напісаў „Песню пра зубра”?
4. У якіх гарадах Польшчы знаходзяцца вуліцы, названыя прозвішчамі беларускіх класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа?
5. Хто з белавежцаў з'яўляецца аўтарам зборніка паэзіі „Ракіта”?

# Крыжаванкі № 43

## *Крыжаванка Касі Леанюк*

- ціхая размова
- ... Артымовіч — беларуская паэтка
- са сталіцай у Кіеве
- афіша
- напрыклад 19.08.1997 г.
- яшчэ не кот
- кліча на ўрок
- завод
- Жэлязовая ... над Утратай
- павелічальнае шкло
- драпежная рыба
- мясціна ў Белавежскай пушчы
- значэнне
- балота

## *Польска-беларуская крыжаванка*

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Rzeka, Pokój, Twarz, Mama, Ryż, Rama, Sadza, Buty, Dar, Usta, Narodziny, Zdjęcie, Tyran

**Адказ на крыжаванку н-р 39:** пах, малеча, гарышча, Лазана, вада, штат, мыла, загад, лаза, вера, чынш, паша, жарт.

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: **Наталля Мацейка, Лукаш Шырэнас, Агнешка Брэнка, Міхась Калужынскі, Агнешка Рэнкавэк і Грышка Кудэрскі** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!



Талон „Зоркі” № 43
26.10.1997

# Быў бы яшчэ адзін пасол

[1 ☞ працяг]

меншасцей і ў апошнім часе ў Міністэрстве ўнутраных спраў ёсць асоба генеральна адказная за меншасныя справы.

***— Ці Вы не адчуваеце, што нечага не зрабілі, што можна было зрабіць больш?***

— Быў бы я празмерна напышлівы, калі б лічыў, што ўсё ўдалося беззаганна. Напэўна многія справы выйшлі не так, як хацелася. Генеральна, аднак, Камісія вельмі сур'ёзна адносілася да свае працы, вырашаючы і многа канфліктных сітуацый. Варта звярнуць увагу і на дзейнасць Камісіі па мясцовасцях. Напрыклад у Кляшчэлях будавалася школа з беларускай мовай навучання. Вядома, што на інвестыцыі грошай заўсёды не хапае. Аднак захады Камісіі давялі да паспяховага завяршэння гэтай будовы. Так было і ў Нараўцы. Была прапанова стварыць пасаду ўпаўнаважанага беластоцкага ваяводы па справах нацыянальных меншасцей, ваявода прызначыў такога, аднак, з увагі бадай на асобу таго ўпаўнаважанага, гэтая справа не ўдалася. Вельмі многа ўвагі адводзілася справе будынка, які займае ГП БГКТ і, — як гэта гаворыцца — дзякуй Богу, сёння гэтая справа падведзена да фіналу. БГКТ стане законным уласнікам будынка і ніхто яго адтуль не будзе выкідаць. Многа ўвагі ў працах Камісіі адводзілася таксама сродкам масавай інфармацыі — радыё і тэлебачанню.

***— Якія тут выніклі праблемы?***

— Ставіліся справы часу і якасці тых перадач. На Беласточчыне людзі маюць засцярогі да нядзельных тэрмінаў, калі беларускія перадачы па радыё і тэлебачанні ўзаемна перакрываюцца. Я гэтую праблему пастараюся нават вырашыць асабіста, не ангажыруючы Камісіі.

***— У якіх камісіях новага Сейма намерваецеся працаваць?***

— Безумоўна ў Камісіі па справах будаўніцтва і Камісіі па справах нацыянальных меншасцей. Задумоўваюся яшчэ над працай у Камісіі па справах сельскай гаспадаркі. У выбарчай кампаніі я прысвяціў многа часу паездкам па мясцовасцях, сустракаўся з земляробамі і за гэтую галіну гаспадаркі даталася мне найбольш. Было многа прэтэнзій, па-мойму — справядлівых і, здаецца мне, што нашы невялікія гаспадаркі патрабуюць у той камісіі яшчэ адной асобы, якая возьме голас у іх абарону.

Я поўнасцю задаволены з прац у Камісіі па справах будаўніцтва. Асмельваюся заявіць, што ў гэтай галіне былі прыняты ўсе сёння патрэбныя законы. Асабліва важнай лічу справу дадаткаў да кватэрнай платы, калі менш заможныя людзі сілай закона атрымалі магчымасць дафінансавання жылля. Вельмі важным таксама лічу закон аб пагашэнні даўгоў жыллёвых кааператываў. Абедзве гэтыя справы маюць прамое грашовае дачыненне да нашых кааператараў.

***— Як Камісія па справах нацыянальных меншасцей выглядала на фоне другіх: ці не была яна нейкай папялушкай?***

— Сеймавая камісія настолькі важная, наколькі аўтарытэтны яе старшыня. Што датычыць Камісіі па справах нацыянальных меншасцей, вельмі аўтарытэтным было старшыняванне Яцка Кураня. У многіх выпадках спадар Курань дзейнічаў па-за Камісіяй з вельмі добрымі эфектамі і інфармаваў пра гэта нас, а мы ягоную дзейнасць адабралі. Наша Камісія ў некаторых выпадках мела нават вышэйшы ранг ад другіх, бо яна мае ў пэўным сэнсе палітычны характар — яе праца бачылася і за граніцай, хаця мы не абумоўлівалі нашай дзейнасці адносінамі другіх дзяржаў да іх польскіх меншасцей.

***— Апошнія выбары паказалі раздзеленасць Беластоцкага ваяводства між дзве, не толькі палітычныя, плыні. Ці, апрача працы ў Камісіі па справах сельскай гаспадаркі і Камісіі па справах нацыянальных меншасцей, Вы думаеце неяк шырэй прадстаўляць тую частку Беласточчыны, якая прагаласавала за СЛД?***

— Я не хачу тут прыводзіць лічбаў, але запэўніваю, што пра нашу частку Беласточчыны ўрад дбаў вельмі сур'ёзна. Трэба тут назваць шпіталь у Гайнаўцы і Дзіцячы клінічны шпіталь у Беластоку. Сёння ў цэнтры ўвагі шаша ў Баброўніках, бо там будзе пагранпераход еўрапейскага маштабу; паводка крыху адтэрмінавала гэту справу. Усё тое, чаго было магчыма дабіцца для Беласточчыны, пры выдатнай дапамозе прэм'ер-міністра, было зроблена, мо нават і больш чым для другіх рэгіёнаў краіны. Але ёсць яшчэ і другі бок гэтай справы; раскажу тут анекдот. Прасіў чалавек Бога, каб дазволіў яму выйграць у *таталётка*. Бог яму адказаў: так, чалавеча, выйграеш, толькі скрэслі лічбы. Вельмі часта ў нас лічылася, што тое, што нам належыцца, мусіць абавязкова быць, але не было дастаткова энергічных захадаў дзеля здабыцця большай колькасці сродкаў. Папросту — гультайства ўраднікаў папярэдняга перыяду.

***— Ці ў сувязі са зменай палітычнага складу парламента прадбачваеце нейкія змены адносін да нацыянальных меншасцей?***

— Не спадзяюся. Думаю, што будуць захаваныя ранейшыя напрамак і сродкі, асабліва на будову школьных аб'ектаў для нацыянальных меншасцей. У нас, на Беласточчыне трэба яшчэ закончыць фізкультурныя комплексы пры школах у Нараўцы, Кляшчэлях і Гайнаўцы; гэтыя справы накіраваны ўжо ва Управу фізкультуры і спорту.

***— Беласточчына падзелена канфесійна; паслы ад АВС падкрэсліваюць сваю сувязь з Касцёлам, праваслаўны ж электарат галасаваў за СЛД. Ці Вы думаеце адстойваць інтарэсы Праваслаўнай царквы, калі б узнікла такая сітуацыя?***

— Я лічыў гэта сваім абавязкам у мінулай кадэнцыі, хаця ў мяне ніхто гэтага не прасіў, і буду лічыць надалей, хаця ў мяне гэтага ніхто не просіць. Здаецца мне, што тут была дапушчана вельмі сур'ёзная памылка. Бо калі б нават беларуская ці праваслаўная меншасць увяла свайго пасла, ці нават двaіх, то што ж яны ўдваіх толькі зрабілі б? АВС зразумела гэта і аб'ядналася. Узнікае пытанне: з кім меў бы яднацца той рух нацыянальных меншасцей? Думаю, што напэўна з моцным, а партнёрам найбліжэйшым ім, на маю думку, з'яўляецца СЛД. І калі б перад выбарамі была дамоўленасць, быў бы яшчэ адзін пасол і амаль напэўна ад беларускай меншасці.

***— Як у Камісіі па справах нацыянальных меншасцей бачылася „Ніва", ці стварала нейкія праблемы?***

— Асаблівых праблемаў не было. Я толькі маю такую заўвагу: „Ніва" замала аб'ектыўная, яна пахне *правіцай*, часам нават моцнай. Калі б змест артыкулаў быў аб'ектыўны, нягледзячы на іх афарбоўку... Я такога не адчуваю.

***— Ці Вы, спадар пасол, сваёю дзейнасцю ў Камісіі маеце намер уплываць на аб'ектыўнасць „Нівы"?***

— Не маю такога ўплыву і не магу мець.

***— Дзякую за размову.***

**Хроніка жыцця**

# Марысіна гора

— Вацкова! А, Вацкова! Марыся! — крычала Ядзька да суседкі на другі бок вуліцы Манюшкі.

Траскатлівы голас ускалыхнуў святочную раніцу, ды, адбіўшыся ад гладзі сажалкі, якую на Выгодзе беластачане Балятонам называюць, вяртаўся прыглушаным рэхам. Але настолькі яшчэ моцным, што сабакі зрэагавалі згодным брэхам. Голас Вацковай, якая адгукнулася суседцы, і брэх сабак зліліся ў адно і Гаўрылюкова ніяк не магла зразумець, што тая ёй адкрыквае.

— Ціхай, Бетавен! Ціхай да халеры, а то ніц не чуваць! — і кінула праз прыадчыненыя дзверы растаптаным башмаком.

Сабачка запішчэў і палахліва схаваўся пад усходы.

— Пытам Марысе, чы кава ўжо піла?

— Цо ты, пані Гаўрылюкова! Нават не мела кеды носа выцерці. Две торбы бэтэк муй стары з бэрэзняку на Петрашах пшынюс. Седзэ і чышчу. Повядам пані, ніколі не ходзіл, а то знэрусціле. Відаць, сумене мэнчыло. Вчорай так се напіл, што валілсе як повесмо. І мове Гаўрылюковай: подбэрэзовікі — едэн у едэн, а красьнючкі — як малёваны. Зусім як у нас у Паўлах. Памента. Ну тэн лясэк, цо бліжэй Канюк? Там і од вас ходзілі.

— Потэм обежэ. Пшыходзі шыбко, бо юж вода кіпячэ! — сказала Гаўрылюкова і схавалася за плахтаю, што вісела ў вушаках уваходных дзвярэй і адганяла мухі.

Марысі нават гэта было на руку. Прыгортвала перад люстэркам валасы і ў думках укладвала, каб як найскладней апісаць Ядзьцы сваё гора. Любіла, калі ёй спачуваюць і яе крыўда становіцца самай вялікай, істотнай і відавочнай на цэлую акругу, а мо і болей. І ведала, што Ядзька пра гэта задбае. У сваім задум'і дайшла аж да дзвярэй хаты Гаўрылюковых. Пагрукала ў вушак.

— А чэго пука? Заходзі, як до себе! — даляцеў з кухні Ядзьчын голас. — О, сяда ту, — падсунула Марысі табурэтку, працершы яе, старою звычкаю, фартухом.

Марыся села і, аблакоціўшыся на кухонным стале, падперла твар далонямі. У кухні пахла варанай кавай. Марыся сядзела, вандруючы вачыма па сценах.

— Ты сама? — спытала.

— Ы-ы!

— То гаварэм па-свойму — хутчэй будзе! А як там твае дзеці? Як Шурык? Паўлінка?

— То ты не ведаеш? Бадай ты ўсцялася, то ж Олек ужо на Пакрову два гады, як у Амерыцы. Ажаніўся і яе бацькі іх забралі. А Поля ў Ольштыне. Не скажу, добра ёй складваецца. І муж такі чалавечы. Ну і з Полі маёй чалавечыха не дрэнная. Спагадлівая такая. Яна і да малога, і да старога па людску ставіцца.

— Бачыш, як яно ёсць. Адным Бог так дагодзіць, што і вол цяляты родзіць, а мне як з яйца, так і да канца. Заўсёды вецер у вочы. Праўду людзі кажуць — хлеб не нявестка, які ўдасца, такі з'есца. Нявестачкі Бог мне не паскупіў. Пяць гадоў з Валікам бегала як на срачку. Добранькая, хоць да раны прыкладвай. І з роду, што падкрэслівала, шляхоцкага. А я гаварыла: „Валік, у кожнай шляхцянкі з ганачкам. Не шукай ладнай, але добрай". Пакуль Валіка на машыне вазілі і грошы кішэнямі прыносіў, то і Вераніка на пальчыках хадзіла, і мяне мамаю называла. Але калі ў гэтай паслявалэнсаўскай суматосе Валіку банкі да горла кінуліся і яго фірма за кішэнь пачала трымацца, дык і злосць паявілася. Сталі жыць як кот з сабакам. Але хітрасці Бог ёй не паскупіў. Умела падысці. Так адурманіла Валіка, што той усё, што мелі, на яе перапісаў і супольнасць маёмасці судом знеслі. Голы галюсенькі застаўся. Адны кнігі яму засталіся. А на халеры яны, у гаршчок іх укінеш? Нават і каморнік не хацеў іх апісваць. А ён мне, што, моў, дзеці. А халера ведае, ці яны напэўна яго? Ён на працы, а яна бегала зызу выставіўшы, або каву папівала. Розныя прыходзілі, нібы па справах. А яму гаварыла, калі яшчэ ўсё ў працы спорылася — не прымай яе да сябе на работу. А ён мне: замест камусьці чужому маю плаціць, то хай дома застанецца. І прыняў. Потым ейнага брата прыняў. І ў канцы канцоў Валіка вытурылі ды яшчэ ў суд падалі. Дзяцей супраць бацькі наставіла, развод правяла. А дзеці што — за тым, хто таўсцей скібку памажа. У турму нават Валіка пасадзіла.

— П'е, Вацкова, кава. Сухаркі прошу, — спыніла Гаўрылюкова. — Але ж я Валіка неяк бачыла. З кабетаю нейкаю бачыла.

— Патрымалі два месяцы ды пусцілі. Выяснілася. Гавару, усё навінчана было. Выйшаў з турмы — і ні кала, ні двара. Як па пажарышчы. Гавару яму — да мяне прыходзь і жыві. Але яму не гонар, сорамна. А яна такой паняю стала, дырэктарам вялікім Валікавай фірмы зрабілася. А істэрычка якая. Неяк да мяне перад Прачыстаю прыйшла і страшыць, што з хаты выкіне, што, моў, за грошы яе фірмы дом пабудаваны, што з паліцыяй прыйдзе. А тваю та маць, думаю, дам я табе паліцыю! Як схапіла анучу ад падлогі, як замахнулася. А яна ў ногі. Нават забыла, што на машыне прыехала. Праз усю вуліцу Манюшкі гнала я яе аж у Беласток. Дык нават п'яніцы, што выпіваць тут прыходзяць, смяяліся. Яна ўцякае, сабака брэша, а я бягу са шматаю і крычу: „Каб ты сваю на чартапалох насадзіла, істэрычка ты!"

— То не мог ён праўды даходзіць, калі ўжо выпусцілі? — уключылася Гаўрылюкова.

— А ты была ў срачы? Была. Бачыла паперу туалетную? Бачыла. Ну то такая і праўда. Яна там вісела, вісіць і будзе вісець, але толькі для сракі. Дойдзеш ты праўды, калі грошай няма. А ён галюсенькі.

— Але ж, кажу, бачыла я яго з нейкай кабетаю. Як з жонкаю сваёй знаёміў. І хату, гаварыў, сваю маюць.

— Толькі што хату, бо яна сама то нікудышняя. Як блыха каля Валіка выглядае.

— Не ўсе людзі роўныя — адны вялікія ростам, а другія — душою. Нявестка невялікая, але зяця рослага маеш. Не скажаш, што Мірчын Стась непрыстойны. Мужчына як дуб.

— І толькі ўсяго, бо розуму не мае. І што з таго, што ён прыгажун, калі Міру як служанку трактуе. Сам дамоў як у гатэль прыходзіць, а да яе чапляецца. Аднойчы вярнуўся пасля тыднёвай неприсутнасці, а ў Міры — госці. Супрацоўнікі прыйшлі пасядзець пры субоце. Ты ведаеш, якой брыды нарабіў? Усіх павыганяў, а яе курваю назваў. Пры ўсіх. Каб гэта раз, а то пры кожнай нагодзе. Ты ведаеш, які сорам?

— Ну так... І так назваў? Пры ўсіх, кажаш. А гэта няпраўда, так? — спытала спачувальна Гаўрылючка.

Марыся доўга ўзіралася ў Ядзьку. Значыць, паскардзілася.

**Міхаль ПАШКОЎСКІ**

Які будзе універсітэт у Беластоку

# Талерантны і непакорны

**Ад 1 кастрычніка 1997 года ў Беластоку ёсць свой самастойны універсітэт, створаны на базе Філіі Варшаўскага універсітэта. Дагэтуль на цэлым абшары на ўсход ад Віслы быў толькі адзін універсітэцкі цэнтр — у Любліне. У паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы універсітэтаў не было. Сёння з рэктарам Універсітэта ў Беластоку праф. Адамам ЯМРУЗАМ гутарыць Ада Чачуга.**



***— Спадар рэктар, ад 1987 года Вы з'яўляецеся жыхаром Беласточчыны. Ці амаль адзінаццацігадовае прабыванне ў гэтым рэгіёне дазволіла Вам заўважыць яго спецыфіку?***

— Гэту спецыфіку я яшчэ заўважаю. Вядома, што спачатку яна кідаецца ў вочы больш. Людзі тут шчырыя, беспасрэдныя і добразычлівыя. Мне, чалавеку з гор, падабаюцца тутэйшыя краявіды, лясы, азёры, спакой прыроды. Заўважце, што і ў рэктарацe вісяць толькі карціны з беластоцкім пейзажам. Я думаю, што такім чынам чалавек становіцца беластачанінам. Я ўжо пару гадоў таму сцвердзіў, што калі я выязджаю ў горныя мясціны, дзе пражывае шмат маіх сваякоў, дык сюды я вяртаюся **дахаты**. Таксама і тры мае сыны, якія ўжо палову свайго жыцця пражылі ў Беластоку.

Аднак жа да сёння, напрыклад, здзіўляе мяне, як успрымаюць тут жарты. Тут існуе як бы іншы тып гумару. На поўдні ён больш свабодны. Многія тут вельмі хутка абражаюцца. У маіх родных мясцінах людзі могуць, як кажуць, брацца за чубы, а назаўтра яны ізноў сябры, быццам нічога не здарылася. Тут жа, калі хтосьці кагосьці абразіць, яны могуць стацца ворагамі на ўсё жыццё.

І яшчэ мушу сказаць пра адну рысу тутэйшых жыхароў, якая мне не падабаецца. Беластачане маюць комплекс правінцыі. Паўстаў цудоўны універсітэт, за які змагалася беластоцкая грамадскасць шмат гадоў, а многія газеты цяпер грымасяць. Мала гасцей, пісалі напрыклад, было на інаўгурацыі. А чаму мала, калі былі рэктары пяці універсітэтаў (варшаўскага, двух люблінскіх — М. Кюры-Складоўскай і каталіцкага, гданьскага, апольскага), былі два міністры і з далёкага Парыжа дырэктар навуковай станцыі Польскай акадэміі навук, не гаворачы ўжо пра віцэ-міністраў, былі таксама — каталіцкі і праваслаўны — епіскапы, ну, і, вядома, прэм'ер-міністр нашага ўрада Владзімеж Цімашэвіч, якому наш універсітэт так многа заўдзячвае.

***— Дарэчы, чаму наш універсітэт займеў назву „Універсітэт у Беластоку", а не — хаця б па таму прынцыпу, што і ў іншых гарадах — „Беластоцкі універсітэт"? Ці не баяліся ўлады непрыемных асацыяцый: „Uniwersytet Białostocki — UB"?***

— Крыху можа і так. Мы не хацелі выклікаць непатрэбных эмоцый. Галоўнае, каб універсітэт існаваў, а назва — гэта ўжо справа другарадная. Дыскусію наконт таго, як ён мае называцца, мы пакінулі на пасля. Я лічу, што яна павінна адбыцца з шырокім удзелам жыхароў нашага рэгіёна. І няхай яны вырашаюць, ці гэта будзе універсітэт: Падляшскі, Усходні, Беластоцкі, а мо назавуць яго і яшчэ інакш.

На пачатак універсітэт павінен быць **аўтаномны**. Такі сэнс універсітэта. Калі ён кіруецца імкненнем да праўды, ён мусіць быць **талерантны і непакорны**. Палітычныя погляды, прыналежнасць да нейкай партыі не маюць тут ніякага значэння. За яго ж стварэнне галасавала большасць паслоў Сейма **ўсіх** арыентацый. Прызнаюся, я падрыхтаваны да ўдараў, але будзем дзейнічаць паводле ўзораў сучаснага універсітэта.

***— Калі я пытала Вас пра спецыфіку нашага рэгіёна, дык мела на ўвазе перш за ўсё нацыянальныя меншасці, а асабліва пражываючых у суцэльнай масе ва ўсходняй Беласточчыне беларусаў.***

— Справы нацыянальных меншасцей мне не чужыя, з імі я ўжо сутыкнуўся, будучы ў Кракаве. Лічу, што універсітэт павінен адлюстроўваць грамадскае жыццё, а беларусы і беларуская культура — гэта частка культуры рэгіёна. І таму лічу, што Кафедра беларускай філалогіі тут абсалютна патрэбная!

***— Але пакуль што ёсць усяго (ужо трэці год) у Інстытуце ўсходнеславянскай філалогіі беларускае аддзяленне (разам з русістыкай), дзе вывучаецца гісторыя беларускай літаратуры, беларуская граматыка, а таксама беларуская літаратурная мова (кіруе праф. Міхал Кандрацюк), ды — ад гэтага года — Кафедра беларускай культуры, дзе будуць вывучацца гістарычныя, сацыялагічныя і этнаграфічныя аспекты беларускай культуры (кіраўнік — праф. Альжбета Смулкова). У тэлевізіі я чула, як Вы абяцалі універсітэту сапраўдную Кафедру беларускай філалогіі ўжо праз два гады...***

— Ну, можа праз тры. Усё залежыць ад кадраў. Таксама справа выглядае з сацыялогіяй, псіхалогіяй.

***— Пры стварэнні Кафедры беларускай культуры таксама былі немалыя клопаты...***

— У гэтай справе вельмі дапамог нам Ежы Гедройць з парыжскай „Культуры". Я сустракаўся з ім. Шмат дапамог.

***— Ці ўлады універсітэта бяруць пад увагу той факт, што тутэйшы універсітэт будзе эманаваць на Усход у шырокім значэнні гэтага слова? Ці зможа вучыцца тут моладзь з Беларусі, Літвы? Ці будзе пашырацца ўжо існуючае супрацоўніцтва з Гродзенскім універсітэтам?***

— Студэнты з Гродна ўжо ёсць на аддзяленні педагогікі. Адзіная перашкода ў пашырэнні супрацоўніцтва — гэта грошы. Трэба будзе добра прадумаць формы супрацоўніцтва.

Мусім дбаць пра захаванне культуры Усходняй Беласточчыны — гэтага кавалачка даўнейшых крэсаў. Дзяржава моцная тады, калі ўсе меншасці адчуваюць сябе добра.

***— Дзякую за размову.***

# Узнагароды, узнагароды...

**(Каму — на, а каму — не)**

Цяпер толькі і чуеш, як міністр унутраных спраў і адміністрацыі ўзнагароджвае паліцыянтаў, пажарнікаў, салдатаў і іншых, хто памагаў людзям пацярпеўшым ад паводкі ды гасіў пажар. На мой погляд, гэта вельмі слушна, што кампетэнтныя людзі і ўлады аб гэтым думаюць, бо дбайнасць аб людзях, якія да чагосьці добрага прычыніліся іх задавальняе і іншых заахвочвае, каб не былі абыякавымі ў экстрэмальных сітуацыях. На жаль, не ўсе аб гэтым клапоцяцца і не ўсе атрымліваюць па заслугах.

Я нічога ўжо не дамагаюся, але з болем хачу апісаць два здарэнні з многіх у маім жыцці, каб людзі ведалі, а хтосьці засароміўся ды другі падумаў так як я, як яно ёсць.

Летам 1981 года, у горадзе Кадань (Паўночная Чэхія) я ішоў па вуліцы Рудэ Армады (Чырвонай Арміі) у гатэль, дзе жылі польскія рабочыя, якія будавалі электрастанцыю Прунэжэв-II. Я ішоў уверх гэтай стромай уліцы, а з горкі ад гатэля каціўся дастаўчы самаход. Бачу, самаход едзе, а вадзіцеля не відаць. Спачатку я падумаў, што мо шыбіна люстраная. Але бачу, што не, бо ў сярэдзіне сядзяць людзі ў белым. Мігам здагадаўся я ў чым справа, бо так у Аўгустове сваю „Сірэнку" патрапаў, здолеў дагнаць „самазабойцу", ускочыў у кабіну ды затармазіў у дзесяці метрах ад галоўнай вуліцы. Затрымаўшы аўто ўключыў я задні ход і, агледаюся, хто сядзіць у машыне. Бачу, што пяць ці шэсць жанчын з тварамі падобнымі да белых фартухоў плачуць. Адна здолела сказаць, што яна, полька з Вроцлава, тут замужам, як у кабіну ўскочыла жанчына — шафёр. Замест падзякаваць мне за тое, што я ўратаваў самаход і жанчын, якіх везла яна ў пральню, хітрая вадзіцелька адразу рванула з капыта: „Цо ту, курва, дэляш, як тэ ебну во тляму (морду), так зубы не позбіраш ты шванцу, прыч!"

Я забыўшы языка ў тляме, збянтэжаны пакінуў кабіну і паплёўся бы збіты сабака ў гатэль. Ішоўшы яшчэ ўспомніў, што полька дзякавала за ўратаванне ад калецтва, або і смерці, і гаварыла, што шафёр іх пакінула ў самаходзе, а сама панесла ў бюро нейкія паперы, а самаход „сам... Божэ цо бы было, жэбы не пан..." і плач. Шафёр ведала, што калі б міліцыя аб гэтым даведалася, то ёй бяды не бракавала б, таму хацела зваліць віну на мяне. Калі яна мяне лаяла, хаця коратка, але востра, ніводная з жанчын словам не адазвалася.

Калі я, вярнуўшыся ў Польшчу, абдумаў справу і напісаў у чэхаславацкае пасольства ў Варшаву, апісаў сітуацыю з датай і вуліцай уключна, каб атрымаць пісьмовую падзяку. Пасольства маўчыць па сённяшні дзень.

І другая справа, якую каб і хацеў, хлуснёй не назавеш, бо ведае ўвесь Беласток і Польшча, хто аглядаў у жніўні 1990 года другую праграму Польскага тэлебачання. Менавіта 14 жніўня 1990 года КПН разбурала помнік удзячнасці Савецкай Арміі на плянтах у Беластоку. Я адзіны пайшоў яго бараніць. Там амаль не дастаў інфаркту ад абразлівых слоў, якімі лаялі мяне і савецкіх дзяцей, што гінулі за Польшчу. Я думаў, што гэта помнік не Леніну, не Сталіну, а нават не генералам. Гэты помнік быў узведзены савецкім воінам-дзецям, якія перад выхадам на вайну мо нават не ўсе ведалі, дзе гэтая Польшча ляжыць, але гнаныя вайною клалі свае маладыя галовы за ўсіх, каго Сталін вырашыў „освободить от немецких захватчиков", замест выгнаць фашыстаў са сваёй зямлі, а палякам сказаць: „Ну, союзники, немцы на вас напали в тридцать девятом, так вы сейчас гоните их со своей земли, мы со своей выгнали". Шкада, але дагэтуль не было б каму ні пляваць на Расію і не было б каму чаго-кольвек разбураць. З другога боку ведаю, што КПН ці РОП і Шарамецеў гэта не ўся Польшча.

І вось гэтым „вычынам" я не толькі што не заслужыў на ніякую падзяку з боку Расіі, Беларусі ці Украіны, але наадварот, я ім ворагам стаў. Не здзіўляюся пасольствам расійскаму і ўкраінскаму, бо яны нават аба мне не чулі, але Генеральнае консульства РБ у Беластоку? Таксама ні гу-гу. Колькі было розных спатканняў з жыхарамі горада, я ні разу не быў запрошаны. Таму паўтараю: вораг я адным і другім, бо падымаю праблему, якую ўсе хацелі б прамаўчаць для добрых узаемаадносін.

Няхай будзе і так, але я знайду спосаб, каб паведаміць родных і знаёмых загінуўшых воінаў (расіян, беларусаў і ўкраінцаў) хто і як дбае аб іхніх дзецях. Хватит скромничать, когда другие, точно пустые бочки, звенят, и на это выигривают.

**Васіль Петручук**

PS. Калі б савецкае камандаванне дбала пра свой народ так, як пра яго не клапацілася, то не палажыла б столькі народу (628 тысяч) у барацьбе за адну толькі Польшчу і маршал Конеў не падвяргнуў бы мясарубцы сваіх падуладных за Кракаў, які пасля выпнуўся на яго, як і на ўсю Савецкую Армію. А я не гавару, што дзесьці заслужыў узнагароду, але так у Чэхіі заслужыў пачуць слова „декуеме" як у Беластоку „спасибо", але без двукосся.

**В. П.**

# Як Галіну замуж выдавалі

Галіна, маладая ўдава з двума сынамі, ужо школьнікамі, у вёсцы сёння „не ўхаваецца". Нават гатовыя дзеткі — не перашкода, каб такая прыгожая і талковая маці апынулася паўторна ў замужным стане. У вёсцы!..

Але Галіна не спяшаецца. Тым больш, што зусім нядаўна ўдавою стала. А мала то чаго на ейнай галаве: і гаспадарку ўтрымаць, завяршыць пабудову свайго дома, кончыць завочныя студыі! А вучыцца Галіна ў сельскагаспадарчай школе. З маленства марыла застацца на гаспадарцы, жыць у вёсцы, на прыродзе, мець вялікі, прасторны, выгадны дом, які будзе прыстанішчам сям'і, куды ахвотна будзе зайсці чалавеку. Падобныя думкі меў і пакойны муж яе. Андрэй, што няпоўны год таму памёр ад рака. Пражылі разам дзесяць гадоў. Так і не здзейснілі сваіх планаў пра супольнае шчаслівае жыццё. Але Галіна хоча, каб яе сыны ажыццявілі мары бацькі, каб мелі той родны дом. Плакала была Галіна, плакала і цешча, Андрэева маці, Ніна, удава таксама, але жыць жа трэба. Тым больш цераз плот, вока ў вока. А цешчы яшчэ і як горка: пахавала мужа, сына, апісалі былі гаспадарку на Андрэя, а цяпер гэта вось — уласнасць Галіны і яе двух сыноў. Але ўсё ў ваколіцы гавораць, што Нінчына нявестка хутка замуж пойдзе, і ўся маёмасць іхняя, з дзеда-прадзеда Карпінскіх, трапіць у чужыя рукі! А што там тыя ўнучкі! Не мае баба Ніна да іх сэрца столькі, як да даччыных, хоць жывуць далёка. Заелі ёй нервы хлапчукі, бо жывыя такія, і агрызіцца могуць, калі баба накрычыць, хлопцы ж гэта, не? А ўвішныя такія, усюды ўлезуць, не пытаюцца, для іх і бабіна — сваё. Ніяк не могуць зразумець, чаму баба Ніна песціць толькі Аню і Асю, калі прыедуць з Любліна, а іх і не прытуліць... Ніна і з нявесткай чамусьці ніяк не магла дагаварыцца, абедзве такія ганаровыя, казалі ў вёсцы. Вось Андрэй узяў яе, гэту выскачку, што вучоную стружа з сябе, а галеча такая. Мела Ніна на воку багатую дзяўчыну, і не менш прыгожую, а больш ласкавую да Ніны, і заказаная была яна, і ўмела дагадзіць, усміхнуцца. А ён раз! — кажа, жаніцца буду з Галінай! І цяпер толькі глядзі, як дабро тая яго Галінка змарнуе! Быццам бы едзіць на тую навуку, год яшчэ астаўся, а халера там ведае, што яна там у тым горадзе робіць, з кім сустракаецца, з кім цягаецца. Навука!..

Галіну „прыкладвалі" ўжо да шмат якіх кавалераў у гміне, а іх столькі, што ўжо і злічыць цяжка. Яна нават і ўсіх іх не ведае. Вось такі мілавідны хлопец, толькі што пасля тэхнікума, нічога, што на восем гадоў ад Галіны маладзейшы, усім расказваў за півам, што жаніцца з ёю будзе, хоць толькі сабе дзень добры давалі на вуліцы. А цешчы ўсё добрыя людзі даносілі, на яе здзіўленне, бо ж усё бачыла б, — не сляпая, на адным панадворку, — што ў нявесткі днююць-начуюць кавалеры. І не думаючы, і не хочучы, Галіна стала аб'ектам нездаровага зацікаўлення ў гмінным мястэчку. Бо ці ж можа *такая бабка* адной жыць? Ідзе па вуліцы ці едзе на ровары, то і малы, і стары за ёю аглянецца!

Аднойчы Галінінаму маці зачапілі ў аўтобусе: ці не чула яна пра тую трагічную вестку? Праз ейную Галіну памерла жанчына! Вось быццам бы заўпарціўся сын няшчаснай з ёю жаніцца, усынавіць ейных хлопчыкаў, — хлопец багаты і статны, і з таго ўсяго маці сэрца пэнкла! Не ўгаварыла, не пераканала адзінага сына, каб не браў на галаву бабу дзіцятую! І пайшла чорная вестка пра тое гора па ўсёй гміне, дайшла нават у Беласток, да Андрэевых сваякоў. А Галіна да гэтай пары ведала ано толькі, што мужчына той Зэнкам называецца, і што ён — вельмі далёкі яе сваяк, быццам бы прадзеды абоіх былі траюраднымі братамі.

Нічога не ведаючы пра слухі, занесла Галіна з калегай на магілкі вянок ад прадпрыемства, бо там калісьці працавала нябожчыца. Няёмка ёй стала, калі ўбачыла, як у яе таропяцца, быццам бы яна была гераіняй гэтай сумнай сустрэчы. І невядома, ці хтосьці сапраўды ўкладвае тут нейкую меладраму, ці то на пацеху сабе, ці Галіне на шкоду. „Ну, нахабніца, глянь, яшчэ прылезла на пахаванне!" — пачула за спіною. Ці ж гэта было пра яе? Пасля на вуліцы пачалі яе пытаць: „Ну, то калі шлюб з Зэнкам? Цяпер то вам ужо нішто не памяшае, праўда ці не?" Пра гэта пачалі распытваць і яе, і цешчу, і маці. Рашыла Галіна папытацца ў самога Зэнка. Азвалася да яго трэці раз у жыцці: „Добры дзень пану. То што, будзем жаніцца? Няма ў нас хіба іншага выйсця? А можа вы, пане Зэнэк, гэтыя плёткі распускаеце?" — „Што вы?!" — успыхнуў чырванню пан Зэнэк і ўцёк.

Дайшла пасля да Галіны вестка, што быццам бы той Зэнэк у яе ў вёсцы сядзеў паўнюткі тыдзень, і не цверазеў. А яна ж у той час... была на сесіі, на экзаменах! Нават сыноў з сабой забрала, бо цешча была ў бальніцы! „Глядзіце, што там можа тварыцца пад вашым вокам!" — перасцерагаюць Ніну знаёмыя ў мястэчку. А хто яго ведае? — не можа Ніна цяпер спаць, бегае глядзець што робіцца ў хаце нявесткі, вечарамі сноўдаецца пад вокнамі. Нічога не дзеецца, але ж людзі такое гавораць?!.

„Няпоўны год ад смерці мужа мінуў, а гляньце, што ваша дачка вычварае!" — папракаюць Галінінай маці добрыя людзі. „А што, ці яна мае на якуюсьці бязглуздзіцу час? Праца, школа, дзеці, дом?" — злуецца Ганна. — Той, хто мае час такое выдумляць, няхай кінкі піша! А калі нала гэта робіць, то хай ведае, што тое да яго вернецца! Бо хто сірот і ўдаву крыўдзіць, таму Бог не даруе! І суды на злачынсніка знойдуцца!"

**Міра Лукша**

# Што лётае над Белавежскай пушчай?

„Лётаючыя талеркі" ці інакш неідэнтыфікаваныя лётаючыя аб'екты (НЛА) даволі часта з'яўляюцца ва ўсім свеце. НЛА назіраюцца хіба ва ўсіх заселеных месцах зямнога шара. Бачаць іх таксама пілоты і касманаўты. Ёсць многа гіпотэзаў, прабуючых растлумачыць, з чым маем дачыненне. Усё ж, пакуль што загадка астаецца загадкай.

Я ніколі непасрэдна не сутыкнуўся з НЛА. Нягледзячы на тое, веру ў існаванне НЛА, хаця не да ўсіх выпадкаў іх назірання адношуся станоўча. Мне здаўна было цікава, ці НЛА паяўляюцца над Белавежскай пушчай, у якой жыву ўжо амаль паўвека. І, вось, нядаўна трапіла ў мае рукі кніжка Браніслава Жапэцкага „Блізкія сустрэчы з НЛА ў Польшчы", выдадзеная ў 1995 г., у якой апісваецца выпадак назірання за НЛА жыхаром Гайнаўкі, нейкім Міраславам К. (шкада, што аўтар затаіў ягонае прозвішча!), на ўскраіне пушчы, побач горада.

Было гэта напрыканцы жніўня 1995 г. Аднойчы раніцай 24-гадовы тады Міраслаў выбраўся па грыбы. Каля 9-ай гадзіны апынуўся ля вузкакалейкі, побач якой з аднаго боку знаходзілася лясная дарога, а з другога — дрыгва. Калі ў нейкі момант мужчына падняў зрок угору, яму аж дыханне заняло ад жаху. Ён убачыў штосьці, чаго ніколі ў жыцці не сустракаў. „Было гэта нешта авальнае, даўжынёю каля 3 метраў, якое асляпляльна біла ў вочы блакітным колерам". Міраслаў не мог глядзець на аб'ект без прыжмурэння павекаў. Працягвалася гэта каля 30-60 секундаў, потым раптоўна ўзняўся моцны вецер, які гвалтоўна закалыхаў галінамі дрэў. Пасля больш-менш 3 мінутаў аб'ект перамяніў свой колер на больш яркі і такім уко астаўся да канца назірання. Аб'ект знаходзіўся каля 150 метраў ад сведкі. Ён утрымоўваўся 50 метраў над зямлёю і вісеў у паветры нерухома. Потым крыху знізіўся і пачаў паволі адлятаць. У час аддалення выканаў каля 5 абаротаў вакол сваёй восі. Міраслаў К. ірвануў за аб'ектам і бег ляснай дарогай каля 1,5 км. Адлегласць паміж імі аставалася ўсё такой самай. Бачачы, што не дагоніць аб'ект, мужчына спыніўся. Яму паказалася, што аб'ект паскорыў палёт і неўзабаве знікнуў за дрэвамі.

Вышэйапісанае здарэнне аўтар кніжкі, вядомы ў Польшчы даследчык а заадно і каардынатар групы даследчыкаў НЛА, прызнаў верагодным. З Міраславам К. ён кантактаваўся карэспандэнцыйна.

Другі, вядомы мне выпадак назірання за НЛА меў месца ў 1991 г. Я яго нават апісаў у „Газеце спвулгчэснай". На жаль, мне не пашанцавала быць непасрэдным сведкам здарэння, хаця аб'ект пералятаў над самой Белавежай. Вось, што мне сказаў у пачатку жніўня 1991 г. тутэйшы жыхар, Міхал Матысюк:

„Было гэта пад канец чэрвеня. Дня дакладна не памятаю. Каля гадз. 9.30 вечарам я ехаў на веласіпедзе дамоў. Раптам на фоне неба ўбачыў светла-жоўты шар, велічынёй больш-менш поўнага месяца. Шар гэты перамяшчаўся бязгучна з усходу на захад, дзесьці над запаведнікам прыроды. Пасля вяртання дамоў (вул. Маставая) я гэты аб'ект паказаў дочкам і мы супольна за ім сачылі. Потым мы выйшлі на вуліцу і нязвыклым відовішчам зацікавілі сваіх суседзяў, м.інш. пражываючых насупраць нас Гваеў. У нейкі момант шар затрымаўся над гарызонтам і гэтак трываў даўжэйшы час. Адна з маіх дачок, якая валодае добрым зрокам, гаварыла, што бачыць пульсуючае святло і нешта цёмнае накшталт крыжа. Праз нейкі час шар пачаў манеўрыраваць і памяншаць сваю велічыню. Відаць, проста адлятаў.

Я пастанавіў праверыць, ці гэты шар паявіцца на другі дзень. Аказалася, што так. Ён паяўляўся звыш тыдня, заўсёды ў аднолькавую пару дня".

Сп. Матысюк не патрапіў сам аб'ясніць, што гэта магло быць. Шар не нагадваў яму ніякага лятальнага апарата, які б ён ведаў. За шарам у той сам час, як потым высвятлілася, назіралі таксама жыхары іншых вуліц Белавежы, але і яны не маглі „дапасаваць" аб'екта да нічога канкрэтнага.

Пішучы аб гэтым здарэнні ў газету, я разлічваў на нейкія водгукі спецыялістаў па НЛА, але нічога такога не дачакаўся.

Мне вельмі цікава: ці хтосьці яшчэ нешта падобнае назіраў пад тэрыторыяй Белавежскай пушчы? Калі так, прашу напісаць у „Ніву".

**Пётр Байко**

# Настроі вакол школы ў Малінніках

**7 кастрычніка г.г. у перадачы „Пад знакам Пагоні" прагучэў рэпартаж Юркі Ляшчынскага з Пачатковай школы ў Малінніках, з якога вынікала, што трэба браць прыклад з такой школы. Аднак рэчаіснасць не выглядае так прыгожа, як магло б нам здавацца.**

**У перадачы настаўніца Марыя Саевіч заявіла, што цяпер школа мае многа дапаможнікаў, кніжак і газет для навучання беларускай мовы, а дзеці вельмі любяць рашаць крыжаванкі. Дырэктар Вольга Стэльмасяк расказвала аб высокім коміне школы, на якім буслы прабуюць зрабіць гняздо, дзякуючы чаму прыбывае дзяцей у ваколіцы.**

На другі дзень паехаў я ў Маліннікі, каб усё праверыць на месцы і зрабіць журналісцкі матэрыял. Цікавіла мне таксама чытальніцтва „Нівы" сярод вучняў. Ля брамы сустрэў я абедзве гараіні радыёрэпартажу.

— Ой, няма ў нас настрою для інтэрв'ю, — сказала дырэктар і параіла кантактавацца з Канстанцінам Капонавым — сакратаром Гміннай управы, які курыруе асветныя справы ў Арлянскай гміне.

Калі я стаў дапытвацца, колькі дзяцей чытае „Зорку", настаўніца беларускай мовы адказала:

— Мы ў першым паўгоддзі не падпісваемся, толькі ў другім. Нашы дзеці маюць старэйшых братоў і сясцёр, якія вучацца ў бельскім ліцэі, і такім чынам „Ніва" даходзіць у дамы нашых вучняў.

На заканчэнне пачуў я, што прэса і радыёвяшчанне — адно і тое ж. Неўзабаве над'ехаў з Орлі школьны аўтобус, які прывёз абеды. Развітаўшыся з настаўніцамі, якія выразна не хацелі размаўляць са мною, паехаў я ў іншыя вёскі, каб пагаварыць з бацькамі дзяцей, што вучацца ў Малінніках.

— Настаўнікі з Маліннік, — кажуць яны, — выключна думаюць аб сваіх пасадах. Нам, бацькам, залежыць, каб дзеці вучыліся ў добрых умовах, а проста камфартабельныя варункі стварае школа ў Орлі. Там ёсць класы-кабінеты, спартыўная зала, дантыст. У Орлі лепшы ўзровень навучання, а гэта ж найважнейшае. Дзяцей у Орлю мог бы вазіць школьны аўтобус. Адна некарысная з'ява — гэта пазнейшае вяртанне дзяцей, але ў Орлі вядуцца пазаўрочныя заняткі ў школьнай святліцы.

Большасць радных таксама выказваецца за ліквідацыяй малінніцкай школы:

— З часу, калі школы перайшлі ў кампетэнцыю самаўрадаў, а ў Орлі была ўзведзена вялікая школа на 500 вучняў, існаванне школы ў Малінніках, у якой вучыцца ўсяго 94 дзетак, прыносіць гміне самыя страты. Утрымоўванне невялікай школы — гэта парадокс.

**Міхал Мінцэвіч**

# Ліст у рэдакцыю

**Спадару Яўгену Міранавічу, галоўнаму рэдактару тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва”**

Тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніву” чытаю, як кажуць, ад заўсёды. Здавалася мне, што ніводная нацыянальная меншасць, у якой бы гэта не было краіне, не можа сабе дазволіць на непрафесійны, а калі нават, то на нізкі ўзровень адзінага свайго часопіса.

Я штораз часцей, за часы кіравання Вамі тыднёвікам, адчуваю патрэбу запратэставаць супраць абражаючых беларусаў або дыдактычна-ментарскіх тэкстаў, якія пэўна паводле Вашых меркаванняў маюць перавыхоўваць нашае грамадства.

Мяне неаднойчы здзіўляе тое, што Вы пры тым даеце прамоцыю слабым, фальшуючым рэчаіснасць тэкстам, змяшчаючы іх на прэстыжнай першай старонцы, як гэта сталася з артыкулам пана Міколы Ваўранюка „З памяркоўным зацікаўленнем” у 39 нумары „Нівы” ад 28 верасня 1997 года. Укладаючы ў вусны ананімных жанчын-суразмоўцаў усялякія паўпраўды, пан Ваўранюк стараецца выклікаць уражанне тупой бязвыхаднасці; заклапочаны народ, а кандыдаты то і гаварыць шкада. Такім чынам пан Ваўранюк дыскрэдытуе аднаго з беларускіх кандыдатаў у Сенат спадара Яна Тапалянскага, які паводле гераіні яго рэпартажу „надаеў як войт” а яшчэ „пхаецца” ў Сенат. Пана Ваўранюка аняк не цікавіць, што гэты кандыдат, у адрозненні ад іншых, балатаваўся ў Сенат пад беларускай шыльдай. Тады паінфармуем пана рэдактара, што той, які так надаеў усім у Тыневічах, якраз там быў найбольш папулярны і атрымаў найбольш галасоў — 91. Адзначым, што СЛД з Цімашэвічам атрымала 86, наш другі кандыдат Міхал Кандрацюк — 80, Рудзінска-Патэюк — 34, а Вапа — 22, што таксама добра.

Тады што гэта такое? Ці ў пана Ваўранюка не хапіла журналісцкай аб'ектыўнасці, ці проста звычайнай прафесійнасці, ці можа ні адно, ні другое, а тады што?

Можа на гэта пытанне адкажа нам у нейкай ступені далейшая частка артыкула, у якой пан рэдактар клапоціцца, што наш народ такі заклапочаны, што без помачы-падказу з боку камісіі не зможа паставіць просты крыжык пры сваім кандыдаце. А на гэты раз падказ немагчымы, бо ўпершыню ў нашы камісіі „прысылалі салідарнікаў з Нарвы”. Ці пан Ваўранюк меў сказаць, што ўсе папярэднія выбары былі фальшаваныя між іншымі такім чынам? Пры тым, як паказалі вынікі, „прароцтвы” аказаліся вартыя прарока, бо заклапочаны народ прагаласаваў надзвычай інтэлігентна.

Наканец пан рэдактар дэнунцыюе чыжоўскага бацюшку, які настаўляў народ на каго павінны галасаваць. Прабачце, але тут які-колечы каментарый быў бы не на месцы. Трэба моцна падкрэсліць, што наш беларускі электарат вельмі разумна і сведама аддаў каля 27 500 галасоў на кандыдатаў у Сенат і за тое ім вялікае дзякуй. Калі нават магу зразумець пана Ваўранюка, то ніяк не магу зразумець спадара галоўнага рэдактара, які гэтаму артыкулу ў даным нумары нашага тыднёвіка надае штандаравую ролю.

**Выбаршчык — Анна Юшчук**

**Ад аўтара:** Як я сапраўды дыскрэдытаваў беларускіх кандыдатаў у Сенат відаць па тэкстах: „Кандыдаты па-над падзеламі” („Ніва” № 36), „Даследчык Беласточчыны” і „Гміны — гэта людзі з зямлёй” („Ніва” № 37). Хто быў аўтарам рэкламных аб'яў можа Вам сказаць упаўнаважаны Выбарчага камітэта БДА Пятро Юшчук (калі супадзенне прозвішчаў выпадковае, дам Вам яго адрас і тэлефон). Цешыць перамога Яна Тапалянскага ў Тыневічах. Прычыніліся да яе галасы мой і маёй сям'і. Што тычыцца прапаганды ў праваслаўных цэрквах, дык сёлета не быў гэта казус аднаго, таго ці іншага святара, а паўсюдная практыка. На гэта, дарэчы, і разлічвалі стваральнікі арганізацыі праваслаўных славян.

**Мікола Ваўранюк**

# Парнасік

### Восень і яе правы

Восень жыве сваімі правамі,
Што не ў сілах выказаць словамі.
Сіла прыроды ва ўсім дзейнічае
І Бога-Творцу праслаўляе.
Кожная дробная жывая былінка
І маленькая травінка
Знае свой час, і як жыць,
А восенню гатовіцца адпачыць.
Таксама кожнае дрэва і куст
Знаюць свой час і „густ”.
Леткам расце, *расцвітаецца*,
Угару, да неба падымаецца.
Восенню паступова лісце скідае
І другі від прымае.
На від яно амаль мёртвае, але жывое
І мне заўсёды дарагое.
Хачу быць сумленным чалавекам
зімою і летам
І найменшым паэтам.
Таксама зімою і восенню,
і кожны дзень,
І не сумаваць ад маршчын —
гэта пачэсна і не цень.
Бо і да чалавека восень прыходзіць
І ўсюды знаходзіць.
Нават на цёплай печы знойдзе
І „новы чалавек” у другую
прастору пойдзе.
Звярам і птушкам восень
дае ініцыятыву,
Каб адляцець, або астацца
і перазімаваць шчасліва.
Звяры таксама дастаюць вялікі *гарт*,
Даражэй золата ён варт.
Таксама возера, рэчка, ручэй...
Гатовяцца да зімы,
каб дыхаць лягчэй.

**Мікалай Панфілюк**

### Кончыўся верасень

Як раптоўна кончыўся верасень!
Як укінуты ў агонь клубок лісця.
Адыходжу нагамі,
хоць астаюся ў Грабіне.
Адыходжу, аглядаючыся штокрок.
Патыкаюся ля става Барысюка,
Ды ніхто мяне не затрымлівае.
Быццам грабіна і дубы спяць,
А рыбы ў ставе звычайна маўчаць.
І так праўда адсоўваецца
Ўсё глыбей у нябачнае.

**Андрэй Гаўрылюк**

### Лісток

Праходзіла я каля дрэва.
Лісток мне на грудзі ўпаў.
Доўга ляжаў на швэдры,
Быццам хацеў мне сказаць:
Не сумуй, што восень прыйшла.
Усе мы жоўтымі сталі.
Упадзем з дрэва і станем
Непатрэбнай кучай смецця.
Так штогод бывае:
Дрэвы голымі стануць,
Людзі нас спаляць.

**Аўрора**

### Захацеў

Захацеў наш Ёзік
Паслом у Сейме быці,
Пайшоў па суседзях
Ласкі ён прасіці.
Мілы мой Міроне,
Хачу я вам сказаці:
Ідзіце на выбары
На мяне голас даці.
Тут Мірон схапіўся
І давай пытаці:
Што зробіш для нас,
Я хачу добра знаці.
Як Ёзік з Міронам
Шчыра разгаварыўся,
То п'яны да хаты
Ігнат уваліўся:
Чаго, Ёзік, хочаш
Раскажы нам справу:
Як будзеш паслом ты,
Ці нам аформіш справу?
Пачаў Ёзік кляцца
І на калені ставаці:
Толькі вы ідзіце
На мяне галасаваці!
Не пайшлі суседзі
Каб голас аддаці
Яны ўжо перасталі
Ёзіка паслом зваці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. сталіца Тыбета, 4. Кларыс, бразільская пісьменніца (1925—77), 6. невялікі аўтамабіль з адкіднымі сядзеннямі па баках, 7. інданезійская выспа, 9. заходнееўрапейская чараўніца, 11. еўрапейская сталіца, 12. верыць у існаванне Бога, 13. жыла ў Эдэме, 15. дзяржава са сталіцай у Нукуалофе, 17. высокі галаўны ўбор даўняга еўрапейскага войска, 18. Надзея, беларуская паэтэса (нар. у 1946 г.), 19. „нябесная Юнона” пунійцаў.

**Вертыкальна:** 1. складаецца з зародка і абалонкі, 2. старажытнагрэцкі скульптар (2-я палова 4-га стагоддзя да н.э.), 3. ансамбль з васьмі чалавек, 4. беларускі сябра Ельцына, 5. Яўген, беларускі акцёр і драматург (1905—79), 6. балетны туфель з цвёрдым наском, 8. быў ім Дон Кіхот, 9. зала ў тэатры для адпачынку гледачоў, 10. інданезійская выспа, 14. штат з адміністрацыйным цэнтрам у Мантпіліер, 16. хімічны элемент н-р 85, 17. канава ўздоўж дарогі для сцёку вады. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 36 нумара**

**Гарызантальна:** Дзідро, возера, Сталін, Кама, мята, служэбнікі, дзяк, нары, апанча, капрал, расток.

**Вертыкальна:** дзірка, рост, воін, ракета, Альдэбаран, масляк, мякіна, дзежка, рышток, апал, чара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

**Міні-даведнік:**

**Таніт** — карфагенская багіня Месяца.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне знаёмы хлопец. Прыяцель з-за граніцы прыслаў яму пасылку, а ў ёй розныя рэчы, між імі шапка са скуры, цёплая. Як надзела я яе на галаву, не хацелася здымаць. Чую тое прыемнае цяпло, але, здаецца, я яму аддала гэту шапку. А ён мне штосьці ўсё ж даў. Былі гэта вельмі прыгожыя ружы. І тыя ружы былі сапраўды ружовага колеру.

**Марыя**

Сніцца мне, што я стаю на вельмі вялікім пляцы, пакрытым тратуарнымі плітамі. На ім знаходзіцца некалькі маленькіх гідрантаў, трубачак. „Ой, — кажу, — зараз пацячэ з гэтай трубкі вада”. Пачынае яна адтуль працякаць, уключаецца ўсё само і вада разліваецца, як мора. Я стаю на гэтым пляцы, усюды вада (чыстая, звычайная „краноўка”). Сушы нідзе не відна, ступіць няма куды, хаця тае вады — толькі па костачкі.

**Ірка**

Марыя! Твой сон добры, бо прыснілася табе, што хлопец падарыў табе ружы. Атрымаць падарунак у сне — так і чакай прыбытку, тым больш, калі гэта былі ружы, дык здарыцца нешта вельмі прыемнае. Што датычыцца шапкі, якую ты надзела на галаву, дык яна магла б абазначаць далёкую (цёплую, прыемную) дарогу. Ты яе, аднак, зняла з галавы, дык думаю, што нікуды не паедзеш.

Ірка! І ты не павінна нервавацца. Вада, яна прадвяшчае кепскае, калі ў сне мутная, брудная. Тады магла б абазначаць хваробу ці іншы клопат. Але ж твая вада была чыстая, як ты кажаш, „краноўка”. Значыць, усё будзе ў парадку. Адна вось толькі загвоздка: ты не мела дзе ступіць, усё было заліта, і гэта будзе, бадай, адзіны мінус у гэтым сне.

**Астрон**


Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранавіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Крынкаўская *краснарачывасць*

Сакрат
у сакрэце
пакратаў рака
ў Крынках. Зарагатаў.
А рак закаркаў,
бы аддаў:
A moja racza s...a
nie uraczy cię raczej,
Sokracie!

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Сытаму ставяць у закід, што не разумее галоднага. А ці галодны разумее сытага?

* Калі кланяешся аднаму, выпінаешся на ўсіх астатніх.

* І конны пешаму таварыш, калі яму конь пачне накульгваць.

**Пётр Байко**

*Малюнак А. Папова*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Прыходзіць набожны яўрэй у прывакзальны буфет. Пабачыў порцыю ружовенькага кумпяка, набраўся апетыту.

— Дайце мне гэту порцыю ласося, — звяртаецца да буфетчыцы.

— Гэта свіны кумпяк!

— Ці я вас пра што пытаю?!

* * *

У гасцініцы парцье дабіваецца ў дзверы нумара:

— А каторай гадзіне заказвалі вы будзіць: а шостай ці сёмай?

— А восьмай, асталоп! А цяпер каторая?

— Дзевятая, спадар.

* * *

У рэстаране спажывец, трымаючыся за жывот, кліча афіцыянта:

— Калі з'еў гэты ваш праклляты бігас, стала мне дрэнна...

— Прашу неадкладна адсюль выйсці! Тут рэстаран, а не амбулаторыя!

* * *

Афіцыянт да знерваванага спажыўца:

— Ваша рэкламацыя апраўдана. У кухні зроблены быў вывад, што сапраўды вам замік супу налілі памыі.

* * *

У рэстаране спажывец падае рэкламацыю на рыбную страву:

— Афіцыянт! Гэтая рыба нясвежая.

— Гэта немагчыма: рыбу нам прысылаюць проста з-над мора.

— Разумею: пэўна вам яе прысылаюць поштай.

* * *

Спажывец з абурэннем накідваецца на афіцыянта:

— Тыя грыбы, што я тут еў пазаўчора, былі атрутныя! Я быў вымушаны клікаць хуткую дапамогу...

— Што вы скажаце! — цешыцца афіцыянт. — Значыць, я выйграў заклад з кіраўніком!

* * *

— Афіцыянт! Я не магу есці гэты суп.

— Хвілінку, зараз паклічу галоўнага кухара.

— Мне галоўны кухар непатрэбны; прынясіце лыжку.

## Ад зялёнага да сіняга

Калматы сабака нявызначанай пароды хадзіў не спяшаючыся. Ад зялёнага плота да сіняга. Ад сіняга да зялёнага. Лянива бразгаў жалезны ланцуг, якім ён быў прывязаны да сабачай будкі. Непадалёку спыніліся дзве жанчыны. Адна трымала на павадку невялікага сабачку, які быў падобны на баранчыка. Такога дворовы пёсік у жыцці яшчэ не бачыў. Адкуль яму, шэраму, было ведаць, што блакітная прыгожая авечка называецца бедлінгтон? Скасавурыўшы на барбоса чорныя з паволокай вочы, бедлінгтон сказаў:

— Хэлоў! Эй, псіна! Як цябе там?

— Тузік, сэр!

— О, Т'юзік! А мяне — Лорд! Ну што, ты ўсё жыццё так і сядзіш на ланцугу, мой фрэнд?

Тузік аднак за словам у кішэню не палез:

— А вы ўсё за гаспадыняй на павадку бегаеце, фрэнд... мой... чэрвень?

Бедлінгтон пераступіў з нагі на нагу:

— Ведаў бы ты, куды я бегаю. На прыёмы, на выстаўкі, вось бачыш, залаты медаль. За экстэр'ер атрымалі.

— Гэта за форму морды, ці што?

— Так, за авал твару. Ведаў бы ты, дзе мы бываем. А што ядзім? Табе і не сніцца! Асабіста я аддаю перавагу жульенам з грыбамі. Гэта о'кей!

— Маніць не буду, акея не еў, — сказаў дварняга. — Але добрая костка — гэта поўны булён з мясам!

— А я тут у саўну хадзіў, — горда сказаў бедлінгтон.

— Гэта што яшчэ такое?

— Збіраецца прыстойная кампанія і гадзінамі пацее.

— А, акрамя як у саўне, ужо і папацець няма дзе? — здзівіўся Тузік. — Ну, і справы!

— Відэа тут у адных знаёмых глядзелі. Фільмы жахаў. Вось гэта клас! Тры ночы пасля гэтага ў сне брахаў, — бедлінгтона ўсяго перакрывіла.

— Відэа я не бачыў, — прызнаўся Тузік. — Тут учора сусед вяртаўся... Паўгадзіны ключом плот адчыняў. Вось гэта было кіно!

— А мяне на тым тыдні павязуць у Маскву ў вясельнае падарожжа. Прычым дзяўчынка спецыяльная прыязджае з Даніі. Нас у свеце ўсяго сямёра засталося. Нам з кім папала нельга. Уяўляеш сабе, дзяўчынку вязуць з Даніі да мяне замуж? Ты такога не нюхаў!

— Пачакай! — здзівіўся Тузік. — Дык, ты толькі... Калі твая прыязджае з Даніі?! Ну, справы... А я любую магу! Якая тут прабяжыць, якую да плота прыціснy — мая! Здараецца па дзве ў дзень. Ну што ты! Магу і цябе пазнаёміць.

— Ды не, нельга мне, — уздыхнуў бедлінгтон, — трэба берагчы пароду. Няхай будзе яна праклятая! Затое маіх патомкаў за долары купляюць, а тваіх кактэйльтэр'ераў і за рубель не купяць.

— Так, мае не прадаюцца і не купляюцца, — з гордасцю адказаў дварняга. — Затое колькі іх дармовых па беламу свету бегае.

— А я гуляю па свеце. Хутка зноў у круіз вакол Еўропы паеду. А ты сядзіш тут на ланцугу. Прабач, эск'юзмі.

— Не, гэта вы мяне эск'юз, — адказаў сабачка. — Вы ж на павадку. Хіба гэта круіз? Калі вакол цэлай Еўропы на павадку цягнуць?

— А ты, а ты — ты сам, — завішчаў бедлінгтон, — што ты тут бачыш? Круіз ад зялёнага плота да сіняга! Гадамі сядзіш на ланцугу!

— Хто вам сказаў, што я сяджу на ланцугу? Эск'юз мяне. Магу стаяць на ланцугу. Магу ляжаць на ланцугу. Што хачу, тое і раблю! Мяне ніхто не тузае. Сам сабе гаспадар.

— Здарава! — сказаў бедлінгтон, паспрабаваў легчы, але павіс на павадку, захрыпеў.

— Се ля ві, — сказаў Тузік, — што ў перакладзе з англійскай значыць, чым даўжэйшы ланцуг, тым больш магчымасцей. Пакуль вас вакол Еўропы цягнуць, я тут паміж платамі, лічы двойчы зямны шар аблячу. А па дарозе чаго толькі не нагледжуся! Калі вас прывалакуць з Еўропы, забягайце, абмяняемся ўражаннямі.

**Сямён Альтаў**

*Пераклаў з рускай*
*Валерый Бабей*

## *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Ведаеш, Сэрцайка, пішу табе, бо ў сярэдзіне ў мяне ўсё пераварочваецца. Мо я і цешча, таму не бачу ўсяго таго, пра што пішу, праз ружовыя акуляры, але, здаецца, што справы выглядаюць сапраўды так, як я іх табе прадстаўляю.

Дзяўчынка, якую прывёў у наш дом сын, была з вёскі. У Беластоку яна вучылася ў тэхнікуме. На першы погляд, была яна такая скромная і спакойная, што я нават здзівілася, як мой сын мог заўважыць яе, вылушчыць з натоўпу дзяўчат, якія абступалі нашага прыгажуна, адзінага сына.

Сын сказаў: „Мама, я мушу ажаніцца!" Ну, што ж, падумала я, калі дзяўчына спадзяецца дзіцяці, дык трэба згадзіцца, бо гэта ж будзе наш унук. Зрэшты, меркавала я далей, калі выбраў менавіта гэту дзяўчыну, дык нешта ў ёй мусіць быць. Сын быў разумным хлопцам, заканчваў якраз палітэхніку і меў шмат сяброў і сябровак.

Вяселле згулялі ў горадзе, яе бацькі дапамаглі, але не шмат. Ну, што ж, падумала я ізноў, не маюць за што, дык зробім самі — гэта ж нашы дзеці.

Мы спадзяваліся, што неўзабаве народзіцца наш унук, нават ужо прыгледзелі яму калыску, але пакуль што нічога не гаварылі за тое, што гэта наступіць хутка. Нарэшце мой муж перамог свой сорам і запытаў, калі ўжо ён будзе дзедам.

Маладыя пачалі рагатаць. На дзяцей то мы яшчэ час маем, сказалі яны амаль у адзін голас. Мы аслупянелі. Як гэта? Ты ж, сынок, казаў, што мусіш жаніцца. Цяпер здзівіўся сын: а ці ж я казаў, што будзе дзіця?! Я мусіў, бо мы так моцна кахаемся...

У мяне як бы ўсё апала. Во як! Узяла за морду хлопца — і ўсё тут. І неўзабаве я пераканалася, якую „разынку" мела ў сабе мая нявестка.

Як толькі сын здаў апошні экзамен, адразу пагнала яго шукаць працу. Ну, ён яе знайшоў, але што гэта была за праца: грашакі. Сама яна таксама пайшла працаваць. Дзіва! У хаце ёй было сумна. Працавала ў нейкім бюро, а стройлася, а малявалася! Калісь сустракаю яе ў горадзе. Стаіць на прыпынку з нейкім мужчынам, зубы скаліць.

Ну, думаю, я табе пакажу! Расказваю ўсё сыну, а ён мяне супакойвае: мама, яны разам працуюць, можа з нарады нейкай вярталіся. А я ўсё сваё: бач ты, якая ціхенькая знайшлася!

І ўсё да сына пачала яна чапляцца: мала грошай ды мала. А што, можа ён красці дзеля яе пойдзе?! Я яму кажу: а ты не пераймайся, не падабаецца — няхай ідзе, а для цябе ў нас яшчэ яды хопіць. Можаш зусім нічога не даваць!

Але ж ён, дурань, ведаеш, што зрабіў? Пабег шукаць дадатковую працу. Пасядзі, кажу, адпачні, а ён, уяві сабе, пасля працы ў хаце каралікі з нейкай масы для прывацяжа лепіць. Божачкі!

І так дайшоў да вялікага бізнесу. Каб ты пабачыла, якая краля цяпер з маёй сыновай! Сын кінуў дзяржаўную пасаду, адкрыў уласную фірму, купіў новы дом, абсыпае жонку футрамі ды біжутэрыяй. О-о-о! Цяпер яна яго ўжо не лае, а ходзіць каля яго, як каля нейкага крышталю. Інакш не скажа, як: Міхаська мой! Куды толькі падзелася яе прастацтва! І ўмее падысці да яго. Будзе ласіцца як сабака, калі нечага хоча, прасіць, пераконваць, але свайго дасягне. А ў хату накупляла рознай непатрэбшчыны — абы грошы выкідаць. Адразу відаць, што іх раней замнога не мела.

Кажу ім: падумайце пра дзіця, пяць гадоў ужо мінула, як вы пажаніліся, а яны мне адно: на гэта маем яшчэ час. І ў мяне апускаюцца рукі. Бо так, праўду кажучы, сын працуе, быццам нейкі парабак, а яна сабе ходзіць на сваю працу, каб адпачыць ды пагуляць. Нябось, у фірме не так соладка зарабляюцца вялікія грошы.

Парай, Сэрцайка, што тут рабіць, сітуацыя накаляецца.

**Галіна**

Галіна! Раю менш умешвацца ў іх справы — будзе лягчэй і табе, і ім. Сын жа ўжо не дзіця, сам ведае, што робіць. Відаць, ён любіць дагаджаць сваёй жонцы. Кахае!

А прыйдзе на свет дзіця, дапамажы, быццам ніколі нічога. **Сэрцайка**